




Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

БЕЛАРУСКІ ОРДЭНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА
ТЭХНАЛАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ ІМЯ С.М.КІРАВА

Р.В.Міксюк, Л.М.Ражкоў

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК ПА ЭКАЛОГІІ І ЛЕСАЗНАЎСТВУ

для студэнтаў спецыяльнасцей 31.12, 26.01

Мінск 1992

ББК 81 Бел.

Разгледжаны і рэкамендаваны да выдання рэдакцыйна-выдавецкай радай БТІ імя С.М.Кірава

Міксюк Р.В., Ражкоў Л.М. Тэрміналагічны тлумачальны беларуска-рускі слоўнік па экалогіі і лесазнаўству. Для спец. 31.12, 26.01. Вучэбны дапаможнік.- Мн.:БТІ імя С.М.Кірава, 1992.

Навуковы рэдактар кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт кафедры лесаводства БТІ І.У.Гуняжанка

Рэцэнзенты:кандыдат сельскагаспадарчых навук, начальнік ВБС К.Ф.Саевіч; начальнік вытворчага аддзела Беларускага дзяржаўна лесаўладкавальнага прадпрыемства А.Р.Штэйнбок; кандыдат сельскагаспадарчых навук, заг.кафедры аховы лесу, дацэнт БТІ М.І.Баранаў.

Прыведзена каля 6000 найбольш ужывальных у лясной гаспадарцы тэрмінаў і дадзена іх тлумачэнне на беларускай мове, што будзе садзейнічаць лепшаму вывучэнню дысцыплін па экалогіі і лесазнаўству.

Прызначаны для студэнтаў спецыяльнасцей 31.12 "Лясная і садова-паркавая гаспадарка", 26.01 "Лесаінжынерная справа".

ISBN 5-7830-0244-5







## УВОДЗІНЫ

Прызначаецца тэрміналагічны беларуска-рускі слоўнік па экалогіі і лесазнаўству для студэнтаў лесатэхнічных ВНУ.

Слоўнік ахоплівае асноўную частку лексікі спецыяльных прадметаў лесазнаўчай і экалагічнай падрыхтоўкі інжынераў лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці.

Пры складанні слоўніка кіраваліся мэтай - дапамагчы студэнтам пры пераходзе навучання на беларускую мову.

Слоўнік мае спецыяльную будову: спачатку даецца тэрмін на беларускай мове, потым яго пераклад на рускую, у дужках пры некаторых тэрмінах даецца лацінская, грэчаская ці іншая назва для глыбейшага пазнання тэрміна і, нарэшце, кароткая фармулёўка значэння слова на беларускай мове. Часам даецца некалькі значэнняў у залежнасці ад ступені ўжывання ў розных галінах навукі.

АБАРЫГЕН - абориген - від жывога - карэнны жыхар якой-небудзь мясцовасці, які здаўна ў ёй жыве, але не абавязкова тут узнік і першапачаткова эвалюцыяніраваў.

АБІСАЛЬ - абиссаль - зона ложы акіяна, якая ляжыць, як правіла, ніжэй за 2000 - 2500 м. Малярухомая вада мае пастаянную тэмпературу ніжэй за 2°С. Арганізмы А. існуюць за кошт рэшткаў фотасінтэзуючых раслін і паядаючых іх жывёл верхніх слаёў акіяна, куды трапляе сонечнае святло, і таму А. дае мінімальную біялагічную прадукцыю.

АБІЯГЕНЕЗ - абиогенез: 1)узнікненне жывога з нежывога ў працэсе эвалюцыі; 2)утварэнне арганічных злучэнняў, характэрных для жывой прыроды, па-за арганізмамі і без удзелу ферментаў у выніку хімічных рэакцый паміж неарганічнымі рэчывамі.

АБЛЯСЕННЕ - облесение - стварэннеляснога покрыва з дапамогай пасеву насення лясных парод, пасадкі іх саджанцаў або садзейнічанне прыроднаму аднаўленню лесу.

АБСАЛЮТНАЯ ВІЛЬГОТНАСЦЬ ПАВЕТРА - абсолютная влажность воздуха (а) - маса вадзяной пары ў 1 м$^3$ паветра у грамах.

АГРАЛЕСАМЕЛІЯРАЦЫЯ - агролесомелиорация - сукупнасць лесагаспадарчых мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне глеба-гідралагічных і кліматычных умоў мясцовасці, якія робяць яе больш спрыяльнай для вядзення сельскай гаспадаркі. А.- частка больш шырокай сістэмы мерапрыемстваў фітамеліярацыі. Заснавана на стварэнні полеахоўных лясных палосаў, аблясенні яроў, крутых схілаў і пяскоў.

АГРАКЛІМАТАЛОГІЯ - агроклиматология - сельскагаспадарчая кліматалогія, раздзел кліматалогіі, які вывучае клімат як фактар сельскагаспадарчай вытворчасці.

АДАПТАЦЫЯ - адаптация: I) эвалюцыйна ўзнікшае прыстасаванне арганізмаў да ўмоў асяроддзя, якое выражаецца ў змяненні іх знешніх і ўнутраных асаблівасцей (біял.);2) любое прыстасаванне органа, функцыі або арганізма да зменлівых умоў асяроддзя (мед.);3) сукупнасць рэакцый (жывой) сістэмы, якія падтрымліваюць яе функцыянальную ўстойлівасць пры змяненні ўмоў асяроддзя, акаляючых гэтую сістэму.

АДВЕНТЫЎНАСЦЬ - адвентивность - прыход (іміграцыя) віду з іншага згуртавання або вобласці распаўсюджвання.

АДВЕНТЫЎНЫЯ РАСЛІНЫ - адвентивные растения (ад лац. - прышлы)- занесеныя або індукаваныя расліны, якія выпадкова праніклі на тэрыторыю мясцовага біяцэнозу і не ўласцівыя для дадзенага фітацэнозу.

АДВЕКЦЫЯ - адвекция (ад лац.*advectio* - дастаўка)- гарызантальнае перамяшчэнне паветраных масаў, якое абумоўлівае перанос цяпла і вільготнасці з адных раёнаў у другія.

АДНОСНАЯ ВІЛЬГОТНАСЦЬ ПАВЕТРА - относительная влажность воздуха ($f$)- працэнтныя адносіны парцыяльнага ціску да ціску насычанай вадзяной пары. Вымяраецца ў працэнтах.

АДНАЎЛЕННЕ ЛЕСУ - возобновление леса - працэс утварэння новага пакалення лесу пад полагам дрэвастою, на высечках, пажарах і іншых плошчах, дзе ён раней рос. А.л. бывае натуральнае, штучнае, камбінаванае, насеннае і вегетатыўнае.

АДНАЯРУСНЫ ДРЭВАСТОЙ - одноярусный древостой - дрэвастой, у якім дрэвы размешчаны ў адным ярусе.

АДПАД ДРЭЎ - отпад деревьев - адміранне дрэў у насадженні ў выніку натуральнага зрэджвання дрэвастою з узростам.

АДЫЯБАТЫЧНЫ ПРАЦЭС У АТМАСФЕРЫ - адиабатический процесс в атмосфере - змяненне тэрмадынамічнага стану паветра (тэмпературы, ціску газаў), якое працякае адыябатычна, г.зн. без абмену цяплом паміж ім і навакольным асяроддзем. Унутраная энергія, а з ёй і тэмпература паветра пры адыябатычным працэсе змяняюцца за кошт работы сціскання або расшырэння.

АЗЕЛЯНЕННЕ - озеленение - культывацыя на свабодных ад забудовы і дарог прасторах населеных месцаў і іх ваколіцаў дзікарослых і (або) акультураных раслін для паляпшэння якасці асяроддзя.



АЗОНАСФЕРА - озоносфера - слой атмасферы на вышынях 25-30 км, у якім сканцэнтравана асноўная маса азону.

АКЛІМАТЫЗАЦЫЯ - акклиматизация - прыстасаванне віду (ці арганізма) да новых умоў існавання, у якія ён трапіў са штучным яго перасяленнем.

АКТЫНАМЕТРЫЯ - актинометрия (ад грэч.*actina* - прамень)- навука аб пераносе і ператварэнні ў атмасферы Зямлі сонечнага, зямнога і атмасфернага выпрамянення, радыяцыйным рэжыме зямной паверхні; раздзел метэаралогіі.

АЛАРМІЗМ - алармизм (ад англ.*alarm* - трывога, страх)- напрамак у навуцы, прадстаўнікі якога акцэнтуюць увагу на катастрафічных выніках уздзеяння чалавека на прыроду, недахопе прыродных рэсурсаў для далейшага развіцця чалавецтва, неабходнасці прыняцця неадкладных рашучых мер для аптымізацыі сістэмы "прырода - грамадства".

АЛЕЛАПАТЫЯ - аллелопатия - уплыў сумесна пражываючых арганізмаў розных відаў адзін на аднаго шляхам выдзялення прадуктаў жыццядзейнасці.

АЛІГАТРОФНЫЯ РАСЛІНЫ - олиготрофные растения - расліны, здольныя расці на глебах, бедных пажыўнымі рэчывамі.

АЛІГАФАГІ - олигофаги - жывёлы, якія кормяцца нямногімі відамі ежы.

АЛЬБЕДА - альбедо (ад лац.*albedo* - белы)- велічыня, якая характарызуе адбівальную здольнасць фізічных цел. Выражаецца адносінамі (у працэнтах) колькасці адбітага паверхняй выпрамянення да колькасці падаючага на яе.

АМЕНСАЛІЗМ - аменсализм (ад грэч. а - не і *mensa* - стол, трапеза)- форма ўзаемаадносін, калі адна папуляцыя прыгнятае другую, але сама не пераносіць адмоўны уплыў.

АНАБІЁЗ - анабиоз - стан жывога арганізма, пры якім рэзка зніжаецца абмен рэчываў і адсутнічаюць бачныя прыкметы жыцця. Дазваляе некаторым відам пераджыць вельмі неспрыяльныя перыяды жыцця (зімні, экстрэмальна засушлівы і да т.п.).

АНАЭРОБНЫЯ АРГАНІЗМЫ - анаэробные организмы (ад грэч. а - не, без + аёг - паветра + *bios* - жыццё) - жывёльныя і раслінныя арганізмы (некаторыя бактэрыі, грыбы, празцейшыя і інш.), здольныя існаваць і развівацца пры адсутнасці свабоднага кіслароду.

АНЕМАФІЛ(Ы) - анемофил(ы) - расліна, якая апыляецца з дапамогай ветру.

АНТАГАНІЗМ - антагонизм (ад грэч. *antagonisma* - спрэчка, барацьба)- форма ўзаемаадносін паміж мікраарганізмамі, калі адзін стрымлівае рост, падаўляе развіццё ці выклікае гібель другога, або адбываецца ўзаемнае прыгнечанне партнёраў.

АНТРАПАГЕН - антропоген - апошні з геалагічных перыядаў ад узнікнення роду чалавека да сучаснасці, працягласцю, па розных меркаваннях, ад 1,8 да 5,5 млн. гадоў.

АНТРАПАГЕНЕЗ - антропогенез: 1) змяненне і самаразвіццё прыродных аб'ектаў і з'яў пад уплывам дзейнасці чалавека; 2) паходжанне чалавека, станаўленне яго як віду, г.зн. працэс гісторыка-эвалюцыйнага фарміравання фізічнага аблічча людзей, развіцця іх працоўнай дзейнасці, мовы, а таксама грамадства - у ходзе сацыягенезу.

АНТРАПАГЕННАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ - антропогенное воздействие - свядомы і несвядомы ўплыў чалавека на сукупнасць або асобныя кампаненты прыродных умоў існавання грамадства, у аснове якога ляжыць уздзеянне на прыроду так званых антрапагенных фактараў. А.ў. пастаянна павялічваецца з развіццём усёй сістэмы прырода-карыстання.

АНТРАПАГЕННЫЯ ФАКТАРЫ - антропогенные факторы - група фактараў, паходжаннем звязаных з гаспадарчай дзейнасцю людзей. Уносяцца чалавекам у прыроду і ўплываюць на навакольнае асяроддзе. Па сваму ўздзеянню А.ф. пераўзышлі многія іншыя фактары асяроддзя.

АНТРАПІЧНЫЯ ФАКТАРЫ - антропические факторы (ад грэч. *anthropos* - чалавек) - група фактараў, звязаных паходжаннем з гаспадарчай дзейнасцю людзей і уплываючых на арганічны сусвет.

АНТЫБІЁЗ - антибиоз (ад грэч. *anti* - супраць і *bios* - жыццё)- форма ўзаемадзеяння паміж мікраарганізмамі, калі адна мікробная папуляцыя захоплівае субстрат і падаўляе іншыя папуляцыі антыбіётыкам.

АНТЫЦЫКЛОН - антициклон - вобласць павышанага ціску, якая ўяўляе сабой атмасферны віхор дыяметрам ад некалькіх сотень да некалькіх тысяч кіламетраў.

АРГАНІЗМ - организм: 1) сінонім паняцця "від жывога"; 2) тое ж, што і асобіна, асобны элемент аднароднага жывога рэчыва як адзінай сукупнасці, што ўдзельнічае ў геахімічных працэсах.



АРНІТАФАУНА - орнитофауна - сукупнасць усіх відаў птушак пэўнай мясцовасці, краіны або геалагічнага перыяду.

АРЭАЛ - ареал - вобласць распаўсюджвання: 1) сістэматычнай групы жывых арганізмаў (віду, роду і г.д.); 2) пэўнага тыпу згуртаванняў; 3) падобных умоў; 4) падобных аб'ектаў (населеных месцаў і да т.п.).

АРЭАЛ ВІДУ - ареал вида - вобласць геаграфічнага распаўсюджвання асобін разглядаемага віду без залежнасці ад ступені пастаянства іх знаходжання ў гэтай мясцовасці, але выключаючы месцы выпадковага пападання (заносу, залёту, заплыву і г.д.) у суседнія рэгіёны.

АРЭАЛ ЭКАЛАГІЧНЫ - ареал экологический - рэгіён, дзе від можа жыць у сувязі з наяўнасцю падышоўшых для яго ўмоў без залежнасці ад таго, дзе размешчаны гэты рэгіён і ці аддзелены ён непераадольнымі для віду перашкодамі.

АСАЦЫЯЦЫЯ РАСЛІННАЯ - ассоциация растительная (ад лац. *associatio* - злучэнне)- асноўная класіфікацыйная адзінка раслінных згуртаванняў (фітацэнозаў). Уяўляе сабой сукупнасць падобных фітацэнозаў, адносна аднародных, але не тоесных адзін аднаму па галоўных паказчыках: відавому складу, структуры, узаемаадносінах раслін з асяроддзем.

АСВЕТЛЕНАСЦЬ - освещенность - светлавы паток (або бачная радыяцыя), які падае на паверхню; выражаецца ў люксах (лк).

АСВЯТЛЕННЕ - осветление - высечкі догляду ў самкнутым маладым дрэвастоі, якія праводзяцца для рэгулявання складу і паляпшэння росту дрэў галоўнай пароды.

АСЕКТАТАРЫ - ассектаторы (ад лац. *assectator* - пастаянны спадарожнік)- расліны, якія хаця і сустракаюцца ў дадзеным фітацэнозе і з'яўляюцца "саудзельнікамі" пабудовы фітацэнозаў, але самі мала уплываюць на яго структуру.

АСЦЫЛЯЦЫІ ПАПУЛЯЦЫЙ - осцилляции популяций (ад лац. *oscillo* - гайдацца)- перыядычныя рэгулярныя ваганні колькасці папуляцыі. Абумоўлены ўнутранымі ў адносінах да папуляцыі фактарамі і звязаны з дынамічнымі змяненнямі папуляцыі.

АСЯРОДДЗЕ АБІЯТЫЧНАЕ - среда абиотическая - усе сілы і з'явы прыроды, паходжанне якіх прама нэ звязана з жыццядзейнасцю тых арганізмаў, якія жывуць зараз.

АСЯРОДДЗЕ БІЯТЫЧНАЕ - среда биотическая - сілы і з'явы прыроды, абавязаныя сваім паходжаннем жыццядзейнасці арганіз-

маў, якія жывуць зараз (для эндапаразітаў і шэрагу мікраарганізмаў А.б. - унутранае асяроддзе арганізма - гаспадара).

АСЯРОДДЗЕ НАВАКОЛЬНАЕ - среда окружающая - сілы і з'явы прыроды, яе рэчыва і прастора, любая дзейнасць чалавека, якая знаходзіцца ў непасрэдным кантакце з аб'ектам або суб'ектам.

АСЯРОДДЗЕ ПРАЖЫВАННЯ - среда обитания - сукупнасць абіятычных і біятычных умоў жыцця арганізма.

АСЯРОДДЗЕ ПРЫРОДНАЕ - среда природная - сукупнасць прыродных абіятычных і біятычных фактараў, якія аказваюць уплыў на чалавека, але без залежнасці ад непасрэдных кантактаў з чалавекам. Можа разглядацца ў адносінах да жывёл, раслін і г.д..

АСЯРОДДЗЕ ЭКАЛАГІЧНАЕ - среда экологическая - сілы і з'явы прыроды, яе рэчыва і прастора, любая дзейнасць чалавека, звязаная толькі з жывымі арганізмамі ці аб'ектам з удзелам жывога. Таму нельга гаварыць: А.э. прадпрыемства ці тэхналагічнай лініі, калі не маюцца на ўвазе людзі або жывыя арганізмы ў складзе гэтых утварэнняў.

АТМАСФЕРА - атмосфера: I) газападобная абалонка планеты; на Зямлі складаецца з сумесі розных газаў, вадзяных параў і пылу; 2) як кампанент біягеацэнозу - слой паветра ў падглебе, глебе і над яе паверхняй, у межах якога назіраецца ўзаемны ўплыў кампанентаў біяцэнозу.

АТМАСФЕРНЫЯ АПАДКІ - атмосферные осадки - вада ў цвёрдым або вадкім стане, якая выпадае з воблакаў (дождж, імжа, снег, снежныя і ледзяныя крупы, снежныя зерні, ледзяны дождж і град).

АТМАСФЕРНАЯ З'ЯВА - атмосферное явление - фізічны працэс, які суправаджаецца рэзкім якасным змяненнем стану атмасферы. Да А.з. адносяцца розныя віды атмасферных ападкаў, ветру, аптычныя і электрычныя з'явы ў атмасферы і іншыя (напрыклад, дождж, снег, туман, атмасферная смуга, шквал, смерч, віхор, мяцеліца, бура, навальніца, палярныя ззянні, зарніца, імгла, галалёд, раса, іней, шэрань).

АТМАСФЕРНЫ ЦІСК - атмосферное давление (P) - ціск паветра на зямную паверхню і на ўсе прадметы ў атмасферы.

АТОЖЫЛКІ - поросль - маладыя парасткі, якія паяўляюцца са спячых або прыдаткавых пупышак на пні або каранях дрэў і кустоў.

АЎТАГЕНЕЗ - автогенез - самапаходжанне, эвалюцыя ў выніку дзеяння ўнутраных фактараў.



АЎТАРЭГУЛЯЦЫЯ - авторегуляция - узаемадзеянне ў прыроднай сістэме, заснаванае на прамых і зваротных функцыянальных сувязях, якое вядзе да дынамічнай раўнавагі або самаразвіцця усёй сістэмы. Здзяйсняецца на прынцыпах сістэмнага кіравання.

АЎТАТРОФ(Ы) - автотроф(ы) (ад грэч. *autos* - сам і *trophe* - ежа, харчаванне)- арганізмы,якія сінтэзуюць у працэсе фотасінтэзу неабходныя для жыццядзейнасці складаныя арганічныя злучэнні з вуглекіслаты, вады і іншых неарганічных рэчываў. Створаныя аўтатрофамі рэчывы задавальняюць асабістыя патрабаванні ў харчаванні.

АЎТАХТОН(Ы) - автохтон(ы): I) від або любая іншая сістэматычная катэгорыя, якая ўзнікла і першапачаткова эвалюцыяніравала ў дадзеным месцы; 2) участак зямной кары, які залягае пад насунутым на яго тэктанічным покрывам.

АЎТАХТОННЫЯ АСЕКТАТАРЫ - автохтонные ассектаторы - абарыгенныя расліны - асектатары.

АЎТАХТОННЫЯ ЭДЫФІКАТАРЫ - автохтонные эдификаторы (ад грэч. *autochton* - карэнны жыхар - абарыген)- віды арганізмаў, узнікшыя ў працэсе эвалюцыі ў той мясцовасці, якую насяляюць.

АЎТЭКАЛОГІЯ - аутэкология (ад грэч. *autos* - сам)- раздзел экалогіі, які вывучае ўзаемаадносіны асобных арганізмаў з наваколным асяроддзем.

АХВЯРА - жертва - асобіна, загінуўшая ў выніку прамога нападу драпежніка і цалкам або часткова з'едзеная ім, або загінуўшая ў выніку стыхійных бедстваў.

АХОВА НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ - охрана окружающей среды - сукупнасць аховы сацыяльна-эканамічнага і прыроднага асяроддзя, акаляючых чалавека; комплекс мерапрыемстваў (міжнародных, дзяржаўных, рэгіянальных, тэхнічных і інш.), накіраваных на забеспячэнне неабходных умоў для захавання здароўя чалавека.

АХОВА ПРЫРОДЫ - охрана природы - мерапрыемствы па захаванню глабальнай сістэмы жыццезабеспячэння чалавецтва на ўмоўна бясконцы тэрмін.

АХОЎНЫЯ ЛЯСЫ - защитные леса - натуральныя і штучныя лясныя насаджэнні, меліярацыйныя і асяроддзеўтваральныя ўласцівасці якіх выкарыстоўваюць для аховы розных аб'ектаў ад неспрыяльных прыродных або антрапагенных уздзеянняў.

АЭРАТАКСАЦЫЯ - аэротаксация - якасная і колькасная ацэнкі прыродных рэсурсаў шляхам вакамернага іх вызначэння або аналізу аэрафотаздымкаў.

АЭРАФОТАЗДЫМКА – аэрофотосъёмка – фатаграфаванне зямной паверхні (сушы, водаў) з самалёта, дырыжабля і г.д. з мэтай выяўлення асаблівасцей рэльефу, характару хвалявання водаў, гушчыні і размеркавання расліннасці, дыслакацыі і колькасці стадаў буйных жывёл, ступені забруджвання зямной і воднай паверхняў і г.д. Здымка з вялікіх вышынь з дапамогай касмічных апаратаў называецца спутнікавай або касмічнай.

АЭРОБНЫЯ АРГАНІЗМЫ – аэробные организмы – аэробы – арганізмы, здольныя жыць толькі ў прысутнасці малекулярнага кіслароду.

БАЗА ДАНЫХ – база данных – сукупнасць звестак, якія захоўваюцца ў запамінальных прыладах вылічальнай машыны. Гэтыя звесткі выступаюць як зыходныя для рашэння праблемных задач на аснове машынных праграм.

БАКТЭРЫЯФАГ – бактериофаг – вірус, які паражае мікраарганізмы.

БАЛАНС РАДЫЯЦЫЙНЫ – баланс радиационный – алгебраічная сума паглынутай і выпрамяняемай радыяцыі.

БАЛАНС РАДЫЯЦЫЙНЫ ЗЯМНОЙ ПАВЕРХНІ – баланс радиационный земной поверхности – рознасць паміж паглынутай сумарнай радыяцыяй і эфектыўным выпрамяненнем з зямной паверхні.

БАЛАНС ЦЕПЛАВЫ – баланс тепловой – сукупнасць прыходу і расходу цяпла.

БАЛОТА – болото – залішне ўвільготнены участак паверхні зямлі, які характарызуецца назапашваннем у верхніх гарызонтах мёртвых рэшткаў, якія потым ператвараюцца ў торф. Пры слоі вільготнага торфу ў 30 см – балота, менш як 30 см – забалочаныя землі.

БАНІТАВАННЕ ГЛЕБЫ – бонитировка почвы – параўнальная ацэнка якасці глебы па яе найважнейшых агранамічных уласцівасцях. Праводзіцца на аснове глебавых абследаванняў. Мае на мэце вызначэнне найбольш спрыяльных глебаў і ўмоў для вырошчвання с.-г. і лясных культур.

БАНІТЭТ – бонитет – эканамічна значная, як правіла, параўнальная натурная характарыстыка (багацце глебы, выхад драўніны з I га, лёгкасць здабычы мінеральнай сыравіны і г.д.) гаспадарча карыснай групы аб'ектаў або ўгоддзяў, якія адрозніваюцца ад іншых падобных утварэнняў.

БАНІТЭТ ГЛЕБЫ – бонитет почвы – яе ўласцівасці і ўзровень ураджайнасці вырошчваемых на ёй культур як сумарны паказчык урадлівасці. Выдзяляецца па рэгіёнах.

БАНІТЭТ НАСАДЖЭННЯ – бонитет насаждения (ням. *Bonität*, ад лац. *bonitas* – дабраякаснасць) – паказчык прадукцыйнасці насаджэння, які залежыць ад мацунку ўмоў вырастання. Характарызуецца памерам прыросту драўніны (нярэдка вышынёй насаджэння) у параўнальным узросце. Для ацэнкі якасці ўмоў росту лесу ўстанаўліваюць класы банітэту, якія паказваюць суадносіны сярэдняга ўзросту насаджэння і сярэдняй вышыні насаджэння.

БАРЫЧНАЯ СІСТЭМА – барическая система – вялікая па памерах вобласць у барычным полі атмасферы з пэўным тыповым размеркаваннем атмасфернага ціску.

БАРЫЧНАЯ СТУПЕНЬ – барическая ступень ($n$) – вышыня, на якую трэба ўзняцца ці апусціцца, каб атмасферны ціск змяніўся на I гПа. Выражаецца ў м /гПа.

БАТАНІКА – ботаника – комплекс навуковых дысцыплін, якія даследуюць жыццё раслін і грыбоў.

БІЁМ – биом (ад англ. *biome*) – сукупнасць розных груп арганізмаў і асяроддзя іх існавання ў пэўных прыродных зонах і паясах, напрыклад ва ўмераным поясе стэп, тайга, у арыдным поясе – пустыня.

БІЁТА – биота (ад грэч. *biote* – жыццё) – сукупнасць раслін і жывёл, аб'яднаных агульнай тэрыторыяй і падобнай гісторыяй фарміравання.

БІЯГЕАЦЭНОЗ – биогеоценоз (ад грэч. *bios* –жыццё, *ge* – зямля, *koinos* –агульны) – складаная і адкрытая сістэма жывых і нежывых кампанентаў прыроды, якія ўзаемадзейнічаюць шляхам абмену рэчываў і энергіі ў межах аднароднага ўчастка зямной паверхні. Тэрмін уведзены У.М.Сукачовым у 1940 г. Часта тэрміны біягеацэноз і экасістэма ўжываюць як сінонімы.

БІЯГЕНЕЗ – биогенез – утварэнне арганічных злучэнняў жывымі арганізмамі.

БІЯГЕННЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ – биогенные элементы – хімічныя элементы, жыццёва неабходныя жывому арганізму. Важнейшыя Б.э. – кісларод, вуглярод, азот, вадарод, а таксама кальцый, калій, магній, сера, жалеза і іншыя.

БІЯГЕНЫ – биогены : I) рэчывы (у тым ліку хімічныя элементы), неабходныя для існавання жывых арганізмаў; 2) рэчывы, сінтэзуемыя арганізмамі ў час жыццядзейнасці,– біяліны, фітан-

цыды і інш.; 3) рэчывы, якія з'явіліся ў выніку раскладання рэштказ арганізмаў, але яшчэ не цалкам мінералізаваныя.

БІЯКЛІМАТ - биоклимат - мікраклімат, створаны арганізмамі і іх згуртаваннямі. Найбольш магутны стваральнік Б.-драўвыя расліны, лес. Адменны Б. ствараецца ў норах, гнёздах і інш. сховішчах жывёл.

БІЯЛІНЫ - биолины - газападобныя, вадкія і цвёрдыя прадукты жыццядзейнасці арганізмаў, якія змяняюць асяроддзе. Б. класіфікуюць на шэраг груп, у тым ліку антыбіётыкі, фітанцыды і іншыя.

БІЯМАСА - биомасса (ад *bio* і лац.*massa* -глыба)- сукупнасць арганізмаў, якія прысутнічаюць у экасістэме (біягеацэнозе) у момант назірання. Выражаецца лікам асобін, а таксама ў адзінках масы, аб'ёму, энергіі. Біямасу раслін называюць фітамасай, жывёл - заамасай.

БІЯРЭДУЦЭНТЫ - биоредуценты (ад грэч.*bios* - жыццё і лац. *reducens* -вяртае, аднаўляе) - біядэструктары - арганізмы, якія мінералізуюць арганічнае рэчыва - раскладаюць яго на больш простыя неарганічныя злучэнні.

БІЯСФЕРА - биосфера (ад грэч. *bios* і *sphaira*- шар)- абалонка Зямлі, існаванне якой абумоўлена мінулай або сучаснай дзейнасцю жывых арганізмаў; адна са сфер геаграфічнай абалонкі.

БІЯТОП - биотоп (ад грэч.*bios* жыццё і *topos* - месца) - участак зямной паверхні (сушы ці вадаёма), які заняты поўным біяцэнозам і мае амаль аднолькавыя абіятычныя ўмовы асяроддзя (клімат, рэльеф, глебы і інш.); неарганічны (косны) кампанент біягеацэнозу.

БІЯТЫП - биотип (ад грэч. *bios* - жыццё і *typos* - форма, узор)- група арганізмаў, якія ўваходзяць у склад мясцовай папуляцыі, маюць аднолькавы генатып і падобныя практычна па усіх прыкметах.

БІЯТЫЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ ПАПУЛЯЦЫІ - биотический потенциал популяции (*r*) - рознасць паміж нараджальнасцю і смяротнасцю, чысты прырост (спад) колькасці папуляцыі.

БІЯЦЭНОЗ - биоценоз (ад грэч. *bios* -жыццё і *koinos*- агульны)- прыродная або штучна ўтвораная сукупнасць арганізмаў (раслін, жывёл, мікраарганізмаў), якія насяляюць поўны, адносна аднародны ўчастак сушы або вадаёма (біятоп), удзельнічаюць у кругавароце рэчываў і маюць поўныя адносіны паміж сабой і з абіятычнымі фактарамі навакольнага асяроддзя. Б. - састаўная частка экасістэмы (біягеацэнозу), яе арганічны кампанент.



БОРА - бора - моцны, халодны, парывісты вецер, які дзьме з нізкіх горных хрыбтоў у напрамку цёплага мора.

БРЫЗ - бриз - мясцовы вецер з сутачнай перыядычнасцю на берагах мораў, вялікіх азёраў і вадасховішчаў, а таксама на некаторых вялікіх рэках. Дзённы брыз дзьме з воднай паверхні на больш цёплае ўзбярэжжа, начны - з ахалоджанага ўзбярэжжа на водную паверхню.

БУРА ПЫЛЬНАЯ (ЧОРНАЯ) - буря пыльная (чёрная) - вельмі моцны вецер (па шкале Бафорта 10-11 балаў, г.зн. 25-28 і 29-32 м/с ), які нясе вялікую колькасць цвёрдых часцінак (пылу, пяску і да т.п.), выдзімаючы іх з незахаваных расліннасцю месцаў і намятаючы ў іншыя.

ВАДАЁМ ЭЎТРОФНЫ - водоём эвтрофный - вадаём з вялікім утрыманнем біягенных рэчываў.

ВАДКІ НАЛЁТ - жидкий налёт - вадзяны асадак, які ўтвараецца на вертыкальных паверхнях з наветранага боку.

ВАЛЕНТНАСЦЬ ЭКАЛАГІЧНАЯ - валентность экологическая - характарыстыка здольнасці віду жывога існаваць у разнастайных умовах асяроддзя.

ВЕГЕТАТЫЎНАЕ АДНАЎЛЕННЕ ЛЕСУ - вегетативное возобновление леса - натуральнае аднаўленне лесу парасткамі ад пня (або ствала),каранёвымі атожылкамі, адводкамі, карэнішчамі і штучнае аднаўленне чаранкамі, каламі, адводкамі і інш.

ВЕГЕТАЦЫЙНЫ ПЕРЫЯД - вегетационный период - перыяд года, у які па метэаралагічных умовах магчымы рост і развіццё (вегетацыя) раслін. Гэта перыяд актыўнай жыццядзейнасці раслін, працягласць якога залежыць ад прыродных умоў.

ВЕГЕТАТЫЎНАЕ РАЗМНАЖЭННЕ - вегетативное размножение - утварэнне новага арганізма з часткі мацярынскага без удзелу палавога працэсу.

ВЕРТЫКАЛЬНАЯ ЗМЕНА СТАЦЫЙ - вертикальная смена стаций - змена відаў стацый у горных умовах.

ВЕРТЫКАЛЬНЫ ГРАДЫЕНТ ТЭМПЕРАТУРЫ - вертикальный градиент температуры ($\gamma$) - змяненне тэмпературы паветра на 100 м вышыні.

ВЕТРАЛОМ - ветровал - асобныя дрэвы і дрэвастой, паваленыя з каранямі ветрам.

ВЕТРАЎСТОЙЛІВАСЦЬ - ветроустойчивость: 1) здольнасць пародаў дрэў, якія маюць глыбокую, моцную і разгалінаваную каранёвую сістэму і ўстойлівы ствол, супрацьстаяць сіле ветру; 2) уласцівасць культурных раслін (у асноўным злакаў) не палягаць пад уздзеяннем ветру.

ВЕЦЕР - ветер - рух паветра адносна зямной паверхні, выкліканы нераўнамерным размеркаваннем атмасфернага ціску.

ВІД - вид - сукупнасць арганізмаў з агульнай генетычнай праграмай (генафондам), якая мае агульную марфалагічную і экалагічную характарыстыку; адна з формаў надарганізменнага ўзроўню арганізацыі жывой матэрыі; генетычна адзіная сукупнасць папуляцый асобін.

ВІД ПІЯНЕРНЫ - вид пионерный - від, які першым засяляе свабодныя ад жыцця ўчасткі прыроднага або антрапагеннага паходжання. Тэрмін, як правіла, адносяць да вышэйшых жывёл і раслін, хаця звычайна "відамі піянерны́мі" бываюць мікраарганізмы і іншыя ніжэйшыя формы жыцця.

ВІД РЭЛІКТАВЫ - вид реликтовый - від, які захаваўся ў якойсьці мясцовасці як "асколак" існаваўшай у мінулым геалагічнай эпохі, фауны або флоры; часта аднача́сова з'яўляецца рэдкім і (або) вымірающым відам.

ВІЛЬГАЦЯЁМІСТАСЦЬ ГЛЕБЫ - влагоёмкость почвы - здольнасць яе ўтрымліваць ваду. Адрозніваюць шмат формаў В.г.: палявую, агульную, капілярную, найменшую, поўную і іншыя.

ВІЛЬГАЦЕЗВАРОТ - влагооборот: 1) тое ж, што і кругаварот вады(у прыродзе); 2) частка агульнага кругавароту вады ў прыродзе, якая ўключае выпарэнне з паверхні Зямлі, перанос вадзяной пары, яе кандэнсацыю ў атмасферы, утварэнне воблакаў, выпадзенне ападкаў.

ВІЛЬГОТНААДЫЯБАТЫЧНЫ ВЕРТЫКАЛЬНЫ ГРАДЫЕНТ ТЭМПЕРАТУРЫ - влажноадиабатический вертикальный градиент температуры - змяненне тэмпературы насычанага вадзяной парай паветра пры яго адыябатычным вертыкальным перамяшчэнні на 100 м.

ВІЛЬГОТНААДЫЯБАТЫЧНЫ ПРАЦЭС - влажноадиабатический процесс - адыябатычны працэс, які працякае ў насычаным вадзяной парай паветры.



ВІЛЬГОТНАСЦЬ ГЛЕБЫ - влажность почвы - велічыня, якая характарызуе ўтрыманне ў глебе вільгаці ў цвёрдым, вадкім і газападобным стане. Выражаецца ў працэнтах ад вагі сухой глебы або ў працэнтах ад аб'ёму глебы.

ВІЛЬГОТНАСЦЬ ПАВЕТРА - влажность воздуха - утрыманне ў паветры вадзяной пары. Характарызуецца абсалютнай і адноснай вільготнасцю (апошняя вымяраецца ў працэнтах да насычэння), дэфіцытам вільготнасці, пругкасцю пары, пунктам расы і ўдзельнай вільготнасцю.

ВОБЛАКІ - облака - сістэма завіслых у атмасферы (не каля самай зямной паверхні) прадуктаў кандэнсацыі ці сублімацыі вадзяной пары - кропелькаў вады, крышталікаў ільду або іх сумесь. Сукупнасць воблакаў стварае воблачнасць. Вылучаюць воблакі перыстыя, перыста-слаістыя, перыста-кучавыя, слаістыя, высокакучавыя, высокаслаістыя, слаіста-дажджавыя, кучавыя і кучава-дажджавыя.

ВОДНЫ РЭЖЫМ ГЛЕБЫ - водный режим почвы - сукупнасць усіх з'яў і працэсаў, якія вызначаюць паступленне, перамяшчэнне, расход і скарыстоўванне раслінамі глебавай вільгаці; важны фактар глебавай урадлівасці.

ВОДНЫ РЭЖЫМ ЛЕСУ - водный режим леса - сукупнасць з'яў, якія вызначаюць паступленне атмасферных і грунтовых водаў у лес, выкарыстоўванне іх лесам, а таксама перамяшчэнне вады ўнутры лесу і за яго межамі. Характарызуецца звычайна водным балансам у сістэме атмасфера - лясная расліннасць - глеба-грунт для канкрэтнага ўчастка за пэўны адрэзак часу.

ВОДНЫ РЭЖЫМ РАСЛІН - водный режим растений - водаабмен раслін з навакольным асяроддзем; абводненасць і стан вады ў самой расліне.

ВУГЛЯВОДЫ - углеводы - цукры, група прыродных злучэнняў, хімічная структура якіх часта адпавядае агульнай формуле $C_m(H_2O)_n$, г.зн. вуглярод + вада. Прысутнічаюць ва ўсіх жывых арганізмах у свабодным стане і ў якасці кампанентаў многіх складаных арганічных злучэнняў - гліказідаў, глікаліпідаў і інш.

ВЫБАРАЧНАЯ ВЫСЕЧКА - выборочная рубка - спосаб высечгалоўнага карыстання, пры якім перыядычна высякаюць частку дрэў пэўнага ўзросту, памеру і якасці.

ВЫБАРАЧНА-ПАСТУПОВАЯ ВЫСЕЧКА - выборочно-постепенная рубка - спосаб высечкі галоўнага карыстання, які спалучае прыкметы выбарачных і паступовых высечак.

ВЫДЗЕЛ ТАКСАЦЫЙНЫ - выдел таксационный - участак лесу, аднародны па таксацыйнай характарыстыцы і гаспадарчым значэнні, на ўсёй плошчы якога неабходны аднолькавыя лесагаспадарчыя мерапрыемствы.

ВЫЖЫВАЛЬНАСЦЬ - выживаемость: 1) лік асобін (у працэнтах), які захаваўся ў папуляцыі за пэўны прамежак часу; 2) ступень захавання папуляцыі або віду ў цэлым ва ўмовах навакольнага асяроддзя на той або іншай стадыі эвалюцыі або ў гістарычны перыяд, г.зн. без уздзеяння чалавека або з яго ўдзелам.

ВЫБАРАЧНАЯ ТАКСАЦЫЯ ЛЕСУ- выборочная таксация леса - устанаўленне колькаснай і якаснай характарыстыкі лесу па даных выбарачных вымярэнняў, праведзеных на пэўнай яго частцы.

ВЫНОСЛІВАСЦЬ РАСЛІНЫ - выносливость растения - талерантнасць, уласцівасць раслін, якія не маюць устойлівасці і не здольныя супрацьстаяць заражэнню, аказваць супраціўленне развіццю хваробы, захоўваць жыццяздольнасць і здавальняючую прадукцыйнасць.

ВЫСЕЧКА - вырубка - лясная плошча, на якой дрэвастой высечаны, а маладыя дрэвы яшчэ не ўтварылі самкнутага полага.

ВЫСЕЧКІ ЛЕСУ - рубки леса - працэс спілоўвання, зразання або ссякання дрэў і вывазкі іх з лесу. Пры гэтым выразаюць асобныя дрэвы, іх групы, участкі лесу розных памераў і формы (суцэльныя лесасекі). В.л. падзяляюць на высечкі галоўнага карыстання, высечкі догляду, ландшафтныя высечкі і іншыя.

ВЫСЕЧКІ ГАЛОЎНАГА КАРЫСТАННЯ - рубки главного пользования - высечка спелых і перастойных дрэў для нарыхтоўкі лесаматэрыялаў, а ў шэрагу выпадкаў для ўзмацнення водаахоўных, засцерагальных і санітарна-гігіенічных уласцівасцей лесу. В.г.к. аб'ядноўваюць у групы або сістэмы: суцэльналесасечныя, несуцэльныя, выбарачныя, паступовыя высечкі і іншыя.

ВЫСЕЧКІ ДОГЛЯДУ - рубки ухода - высечкі прамежкавага карыстання - перыядычнае выдаленне з насаджэння дрэў, якія адстаюць у росце або перашкаджаюць росту дрэў галоўных парод. Адрозніваюць віды В.д.: асвятленне, прачыстка, прарэджванне, праходная высечка, а таксама санітарная высечка.

ВЫТВОРНЫЯ ЛЯСЫ - производные леса - лясы з менш каштоўных відаў (асіны, бярозы, вольхі і інш.), якія фарміруюцца на месцы карэнных хваёвых і шыракалістых лясоў у выніку іх высечкі, пажараў і іншых прычын выдалення дрэвавага і іншых ярусаў.



ГАДАВЫЯ КОЛЬЦЫ - годовые кольца - гадавыя слаі, слаі прыросту драўніны ствала або галіны дрэва, якія на папярочным зрэзе бачны ў выглядзе канцэнтрычных кольцаў. Нарастаюць кожны вегетацыйны перыяд ад цэнтра да перыферыі ў выніку перыядычнай дзейнасці камбію і складаюцца з дзвюх частак - ранняй (больш светлай) і позняй (больш цёмнай) драўніны.

ГАЗААБМЕН ГЛЕБАВЫ - газообмен почвенный - перамяшчэнне газаў у глебе - абмен газамі паміж цвёрдай, вадкай, газападобнай і жывой фазамі глебы, а таксама паміж ёй і атмасферай, падглебай і жывымі каранямі раслін.

ГАЗАЎСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН - газоустойчивость растений - здольнасць раслін расці і размнажацца без істотных змяненняў ва ўмовах павышанай канцэнтрацыі шкодных газаў.

ГАЛАЛЁД - гололёд - слой шчыльнага лёду, які намярзае ў выглядзе скарынкі на зямлі і на прадметах (галінах дрэў, правадах і інш.). Г. утвараецца з кропляў пераахалоджанага дажджу або імжы.

ГАЛАЛЕДЗІЦА - гололедица - лёд на паверхні зямлі, не пакрыты снегам. Назіраецца адначасова з галалёдам. Утвараецца ў выніку замярзання мокрага снегу, дажджу ці імжы пры сутыкненні з моцна пераахалоджанай паверхняй.

ГАЛАФІЛ(Ы) - галофил(ы) - арганізм, які аддае перавагу месцам з павышанай колькасцю солей для жыцця ("салялюб"). Тэрмін прымяняецца галоўным чынам да мікраарганізмаў і дробных жывёл.

ГАЛАФІТ(Ы) - галофит(ы) - расліны, прыстасаваныя да жыцця на засоленых глебах (напр. палын, тамарыкс, салярос). Г. шырока распаўсюджаны ў пустынях і паўпустынях, на некаторых акіянічных узбярэжжах.

ГАЛОЎНАЕ КАРЫСТАННЕ ЛЕСАМ - главное пользование лесом - адзін з відаў выкарыстання сыравінных рэсурсаў лесу, г.зн. атрыманне драўніны такога памеру і якасці, якія найбольш поўна задавальняюць патрэбы народнай гаспадаркі ў ёй як матэрыяле

ГАЛОЎНАЯ ПАРОДА - главная порода - дрэвавая парода, якая

у пэўных лесараслінных і эканамічных умовах найлепшым чынам адпавядае гаспадарчым мэтам.

ГАЛОЎНЫЯ ВЫСЕЧКІ - главные рубки - высечка спелых і перастойных дрэў для нарыхтоўкі лесаматэрыялаў, а ў некаторых выпадках для ўзмацнення водаахоўных, засцерагальных і санітарна-гігіенічных уласцівасцей лесу.

ГАМАСФЕРА - гомосфера - ніжні слой атмасферы вышынёй да 95 км, у якім састаў паветра застаецца адносна нязменным.

ГАМЕАСТАЗ - гомеостаз (ад грэч.*homoios*- падобны, аднолькавы і *stasis* - стан, нерухомасць)- здольнасць экасістэмы супрацьстаяць змяненням яе біятычных і абіятычных кампанентаў і захоўваць на працягу доўгага часу ўласцівую ёй раўнавагу утварэння і раскладання арганічнага рэчыва.

ГАМАЯТЭРМ(ІЯ) - гомойотерм(ия): 1)здольнасць жывёл (птушкі і большасць млекакормячых) падтрымліваць пастаянную тэмпературу цела незалежна ад тэмпературы навакольнага асяроддзя; 2) аднолькавая тэмпература, а адпаведна і шчыльнасць па ўсёй таўшчыні вады вадаёма ці вадацёку.

ГАМАЯТЭРМНЫЯ ЖЫВЕЛЫ - гомойотермные животные (ад грэч. *homoios*- падобны, аднолькавы +*therme*- цяпло, жар) - цеплакроўныя жывёлы - група жывёл з пастаяннай, устойлівай тэмпературай цела, якая амаль не залежыць ад хістанняў тэмпературы знешняга асяроддзя.

ГАР - гарь - участак раслiннасцi (часцей за ўсё лес), пашкоджаны або знішчаны агнём; выпаленае месца ў лесе, пажарышча.

ГАРАДСКІЯ ЛЯСЫ - городские леса - лясы, якія растуць у межах гарадской рысы. У адрозненне ад зялёных насаджэнняў у скверах, бульварах, вуліцах і г.д., якія не ўваходзяць у дзяржаўны лясны фонд. Г.л. ўваходзяць у яго склад і адносяцца да катэгорыі лясоў дзяржаўнага значэння.

ГАРЫЗАНТАЛЬНЫ БАРЫЧНЫ ГРАДЫЕНТ - горизонтальный барический градиент - змяненне атмасфернага ціску ўздоўж гарызанталі, накіраванай перпендыкулярна да ізабараў у бок ад высокага ціску да нізкага. Выражаецца ў гПа/100 км.

ГАРЫЗОНТ ГУМУСАВЫ - горизонт гумусовый - гарызонт глебы ў верхняй частцы глебавага профілю, дзе адбываецца назапашванне гумусу. Найбольш урадлівы гарызонт глебаў.

ГАРЭННЕ ЛЯСОЎ - горимость лесов - комплекс, абагульняючае паняцце, якое паказвае, як часта ў канкрэтным раёне бываюць лясныя пажары і якую плошчу лясоў яны ахопліваюць.



ГЕАБАТАНІКА - геоботаника - навуковая галіна, якая вывучае раслінны покрыў Зямлі як сукупнасць раслінных згуртаванняў (тыпаў раслiннасці, фітацэнозаў). У замежнай літаратуры ў геабатаніцы зрэдку сустракаюць і экалогію раслін.

ГЕАБІЕНТ - геобионт - від, які жыве ў зямлі - глебе і паўглебе.

ГЕАГРАФІЯ РАСЛІН - география растений - раздзел батанічнай геаграфіі, які вывучае заканамернасці распаўсюджвання асобных відаў раслін на зямной паверхні.

ГЕАЛАГІЧНЫ КРУГАВАРОТ - геологический круговорот - працэсы гарызантальнага і вертыкальнага абмену мінеральных рэчываў унутры геасфер (атмасферы, гідрасферы і літасферы) і паміж імі.

ГЕЛІЯБІЁНТ - гелиобионт - любы від - жыхар балотаў (асака, жабы і інш.).

ГЕЛІЯФІЛ - гелиофил - святлолюбівы від, сонцалюб (большасць раслін, яшчаркі, змеі і інш.).

ГЕЛІЯФІТ - гелиофит - расліна, якая аддае перавагу месцам для жыцця, ярка асветленых сонцам (большасць ліcцевых і светлахваёвых дрэў, злакаў і інш.).

ГЕЛІЯТРОФ - гелиотроф - арганізм, які сінтэзуе арганічныя рэчывы з неарганічных за кошт энергіі Сонца.

ГЕНАТЫП - генотип (ад грэч.*genos*- род, паходжанне)- сукупнасць усіх спадчынных уласцівасцей асобіны.

ГЕНАФОНД - генофонд: 1)сукупнасць генаў аднай групы асобін (папуляцыі, групы папуляцый або віду), у межах якой яны характарызуюцца пэўнай частатой сустракальнасці (ген.); 2) уся сукупнасць відаў жывых арганізмаў з іх праяўленымі і патэнцыяльнымі спадчыннымі задаткамі (ахова прыр.).

ГЕНЕРАЦЫЯ - генерация: 1) нараджэнне, параджэнне, узнаўленне, вытворчасць - істоты, з'явы, уласцівасці рэчываў (біял.,фіз.); 2) усё непатрэбнае патомства асобін папярэдняга пакалення (біял.); 3) сінонім працяглаcці аднаго пакалення - перыяд жыцця арганізмаў ад пачатку развіцця да стану палавога паспявання (біял.).

ГЕНЕТЫКА - генетика (ад грэч. *genesis* - паходжанне) - навука пра законы спадчыннасці і зменлівасці арганізмаў і ме-

тадах кіравання імі.

ГЕРБІЦЫД - гербицид - рэчыва, якое выкарыстоўваецца для выбарчага або поўнага знішчэння нежаданых травяністых (зрэдку кустовых і дрэвавых) раслін. У высокіх канцэнтрацыях Г., як правіла, шкодныя для здароўя чалавека і жыцця жывёл.

ГЕТЭРАСФЕРА - гетеросфера - частка атмасферы, якая пачынаецца на вышынях 95-100 км над Зямлёй, і састаў паветра яе значна змяняецца з павелічэннем вышыні.

ГЕТЭРАТЭРМНЫЯ ЖЫВЁЛЫ - гетеротермные животные (ад грэч. heteros- іншы + therme - цяпло, жар)- група жывёл, у якіх перыяды пастаяннай тэмпературы цела змяняюцца перыядамі значных яе ваганняў у залежнасці ад змен тэмпературы знешняга асяроддзя.

ГЕТЭРАТРОФЫ - гетеротрофы (ад грэч. heteros -іншы, trophe- ежа)- арганізмы, якія жывяцца толькі або пераважна арганічнымі рэчывамі і не здольныя да першаснага сінтэзу іх з неарганічных злучэнняў. Да іх належаць усе жывёлы і чалавек, некаторыя расліны і мікраарганізмы. Г. могуць жывіцца толькі раслінамі (фітафагі), жывёламі (драпежнікі), рэшткамі жывых арганізмаў (сапрафагі, сапрафіты).

ГЕТЭРОЗІС - гетерозис - "гібрыдная моц", паскарэнне росту, павелічэнне памераў, павышэнне жыццястойкасці і пладавітасці гібрыдаў першага пакалення ў параўнанні з бацькоўскімі формамі раслін або жывёл. У другім і наступных пакаленнях Г. звычайна патухае.

ГІГРАБІЁНТ - гигробионт - арганізм, які жыве ў водным асяроддзі. Можа адносіцца да амфібіёнтаў.

ГІГРАФІЛ(Ы) - гигрофил(ы) - наземны арганізм, які аддае перавагу вільготнаму або пераўвільготненаму асяроддзю (паветру або глебе), напр. макрыцы.

ГІГРАФІЛЬНЫЯ АРГАНІЗМЫ - гигрофильные организмы (ад грэч. hugros- вільготны) - наземныя арганізмы, прыстасаваныя да жыцця ва ўмовах павышанай вільготнасці паветра ці глебы.

ГІГРАФІТ(Ы) - гигрофит(ы) (ад грэч. hugros- вільготны і phyton расліна)- расліны, якія жывуць у месцах з пастаяннай высокай вільготнасцю глебы (часта і паветра). Г. не выносяць значнага воднага дэфіцыту, таму што не здольныя абмяжоўваць расход вады.



ГІГРАФОБ(Ы) - гигрофоб(ы) - наземныя жывёлы, якія пазбягаюць залішняга ўвільгатнення канкрэтных месцаў пражывання.

ГІДРАГРАФІЧНАЯ СЕТКА - гидрографическая сеть - сукупнасць вадаёмаў і вадацёкаў сушы (рэк, азёраў, балотаў і вадасховішчаў).

ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНЫЯ АБСЕРВАТОРЫІ - гидрометеорологические обсерватории - навукова-вытворчыя падраздзяленні Гідраметэаслужбы (у РБ шэсць - у кожнай вобласці). Выконваюць шырокі комплекс гідраметэаралагічных назіранняў і абагульняюць матэрыялы, кіруюць сеткай гідралагічных і метэаралагічных станцый і пастоў.

ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНАЯ СЛУЖБА РБ - гидрометеорологическая служба РБ - дзяржаўная арганізацыя, якая абслугоўвае народную гаспадарку і насельніцтва рэспублікі метэаралагічнай, гідралагічнай і аграметэаралагічнай інфармацыяй і прагнозамі. Уключае гідраметэацэнтр, бюро надвор'я, цэнтр па кантролю забруджвання прыроднага асяроддзя, назіральную сетку абсерваторый, станцый і пастоў. Узначальваецца Беларускім рэспубліканскім упраўленнем па гідраметэаралогіі і кантролю прыроднага асяроддзя.

ГІДРАМЕТЭАЦЭНТР РБ - гидрометеоцентр РБ - навукова-вытворчая і апаратыўная ўстанова гідраметслужбы РБ. Складае метэаралагічныя і гідралагічныя прагнозы на тэрыторыі рэспублікі, ажыццяўляе метадычнае кіраўніцтва гідраметэаралагічнымі станцыямі і абсерваторыямі , вядзе навукова-даследчую работу па вывучэнню гідраметэаралагічнага рэжыму, выдае даведнікі, штогоднікі і інш.

ГІДРАСФЕРА - гидросфера - сукупнасць усіх водаў Зямлі: мацерыковых (глыбінных, глебавых, паверхневых), акіянічных і атмасферных. Як асобая зямная абалонка разглядаюцца толькі воды, якія знаходзяцца на паверхні планеты (мацерыковыя і акіянічныя).

ГІДРАФІЛЬНЫЯ АРГАНІЗМЫ - гидрофильные организмы (ад грэч. hugor -вада і phileo -люблю)-арганізмы, якія пражываюць у вадзе.

ГОРНА-ДАЛІННЫЯ ВЯТРЫ - горно-долинные ветры - вятры, якія назіраюцца ў горных мясцовасцях у сувязі з розным награвам паветра над паверхняй схілаў і на той жа вышыні ў свабоднай атмасферы. Ноччу дзьме горны вецер, падымаючыся уздоўж

даліны і далей уверх па схілах гор.

ГОРНЫЯ ЛЯСЫ - горные леса - растуць на схілах гор, у некаторых выпадках займаюць прастору ад іх падножжа да альпійскіх лугоў. Г.л. выконваюць засцерагальныя, водарэгулюючыя і супрацьэразійныя функцыі.

ГРАД - град - атмасферныя ападкі ў выглядзе часцінак шчыльнага лёду разнастайнай формы і памераў.

ГРУПА ЛЕСУ - группа леса - іх дзяленне ў залежнасці ад гаспадарчай, сацыяльнай і экалагічнай значнасці. Вышэйшая - першая група, ніжэйшая - трэцяя група.

ГРУПАВА-ВЫБАРАЧНАЯ ВЫСЕЧКА - группово-выборочная рубка - адзін з відаў паступовых высечак, пры якіх дрэвастой высякаюць групамі ў некалькі прыёмаў у месцах, дзе ёсць курціны падросту, на працягу двух класаў узросту.

ГРЭБЕНЬ - гребень - звязаная з антыцыклонам і выцягнутая ад яго цэнтра паласа павышанага ціску, размешчаная паміж двума цыклонамі.

ГУМІФІКАЦЫЯ - гумификация (ад лац. *humus* -зямля і *facio*-раблю)- працэс ператварэння прадуктаў раскладання розных па складу і паходжанню арганічных рэчываў у гумусавыя. Працякае ў глебе, а таксама пры ўтварэнні торфу, сапрапелю, пры кампаставанні і да т.п. працэсах.

ГУМУС - гумус - арганічнае рэчыва глебы, якое ўтвараецца ў выніку раскладання раслінных і жывёльных рэшткаў і прадуктаў жыццядзейнасці арганізмаў. У гумусе ёсць асноўныя элементы жыўлення раслін. Глебы, багатыя гумусам,- высокаўрадлівыя.

ГУШЧЫНЯ ДРЭВАСТОЮ - густота древостоя - шчыльнасць засялення дрэвамі лясной плошчы, характарызуецца колькасцю дрэў на 1 га з улікам іх таўшчыні. Г.д. вызначаюць суцэльным пералікам дрэў на ўсёй плошчы таксацыйнага ўчастка або частковым пералікам на якой-небудзь яго частцы, калі колькасць улічаных дрэў пераводзіцца на адзінку плошчы.

ГУШЧЫНЯ ЛЯСНЫХ КУЛЬТУР - густота лесных культур - колькасць дрэў і кустоў, якія растуць на 1 га лесакультурнай плошчы. Адрозніваюць гушчыню пасадкі лясных культур і гушчыню стаяння дрэў у лясных культурах.

ДАБРАВОЛЬНА-ВЫБАРАЧНАЯ ВЫСЕЧКА - добровольно-выборочная рубка - адзін з відаў выбарачных высечак, пры якім у першую чаргу высякаюць фаўтныя, перастойныя, спелыя дрэвы, а таксама дрэвы з запаволеным ростам для своечасовага выкарыстання драўніны, захавання і павышэння ахоўных уласцівасцей лесу.



ДАЖДЖАВАННЕ - дождевание - спосаб паліву раслін, пры якім вада спецыяльнымі ўстройствамі распырскваецца ў выглядзе дажджу над паверхняй глебы і раслінамі.

ДАМІНАНТ(Ы) - доминант(ы) (ад лац. *dominans* -пануючы): 1) від раслін, які на дадзенай тэрыторыі колькасна або якасна пануе ў раслінных згуртаваннях - фітацэнозах; 2) асобіна,якая пануе ў групе (стадзе, стаі, дэме і г.д.).

ДЗЯЛЯНКА - делянка - частка лесасекі, абмежаваная візірамі і вуглавымі слупамі.

ДЗЯРНОВА-ПАДЗОЛІСТЫЯ ГЛЕБЫ - дерново-подзолистые почвы - адзін з падтыпаў падзолістых глебаў.

ДОЖДЖ - дождь - атмасферныя ападкі ў выглядзе кропель вады дыяметрам ад 0,5 да 7 мм.

ДРАБНАЛІСТЫЯ ЛЯСЫ - мелколиственные леса - утвораныя галоўным чынам бярозай, асінай і вольхай шэрай, г.зн. дрэвамі з дробным лісцем (у адрозненне ад шыракалістых лясоў) і лёгкай драўнінай.

ДРАПЕЖНІК - хищник: 1) жывёла або расліна, якія ловяць і пядаюць жывёл як аб'ект харчавання; 2) жывёла, якая харчуецца прадстаўнікамі блізкіх сістэматычна відаў (груп).

ДРАПЕЖНІЦТВА - хищничество - форма міжвідавых узаемаадносін і спосаб харчавання арганізмаў, пры якіх адзін від жыве за кошт другога, з'ядаючы частку асобін яго папуляцыі.

ДРАПЕЖНЫЯ ЖЫВЁЛЫ - хищные животные: 1) пазваночныя і беспазваночныя жывёлы, якія кормяцца жывёламі пераважна бліскай або аднолькавай сістэматычна групы; 2) жывёлы, якія кормяцца ўсякімі жывёламі.

ДРЭВА - дерево - жыццёвая форма (фанерафіт) расліны са шматгадовым адраўнелым галоўным сцяблом (ствалом), які захоўваецца ўсё жыццё, і галінамі, утвараючымі крону.

ДРЭВАВАЯ ПАРОДА - древесная порода - род або від дрэвавай расліны. Падраздзяляюцца на хваёвыя (сасна, елка і інш.) і ліцевыя (дуб, бяроза і інш.) пароды.

ДРЭВАСТОЙ - древостой: 1) сукупнасць дрэў, якія з'яўляюцца асноўным кампанентам насаджэння; 2) любая сукупнасць дрэў (звычайна маецца на ўвазе - складаючыя лес). Адрозніваюць чысты, змешаны, просты і складаны Д.

ДЫГРЭСІЯ - дигрессия - пагаршэнне стану біятычных згуртаванняў (экасістэм) з-за знешніх або ўнутраных прычын.

ДЫНАМІКА КОЛЬКАСЦІ НАСЯКОМЫХ - динамика численности насекомых - чаргаванне перыядаў павелічэння і спаду колькасці асобін насякомых у папуляцыі пэўнага віду.

ДЫНАМІКА ПАПУЛЯЦЫЙ - динамика популяций - змяненне колькасці, палавога і ўзроставага складу папуляцый, вызначаемае ўнутрыпапуляцыйнымі працэсамі і ўзаемадзеяннямі папуляцый розных відаў.

ДЫНАМІКА ФІТАЦЭНОЗУ - динамика фитоценоза - перыядычныя і неперыядычныя змяненні раслінных згуртаванняў, за выключэннем эвалюцыйна-гістарычнага працэсу іх фарміравання (цэнагенезу), разглядаемага асобна.

ДЫЯПАУЗА - диапауза (ад грэч.*diapausis* - перапынак, астаноўка)- перыяд глыбокага фізіялагічнага спакою ў развіцці шматлікіх беспазваночных і некаторых пазваночных жывёл , які характарызуецца рэзкім спадам абмену рэчываў і спыненнем формаўтваральных працэсаў.

ДЭГРАДАЦЫЯ ЛАНДШАФТУ - деградация ландшафта - гэта прыроднае або антрапагеннае спрашчэнне, зніжэнне гаспадарчага і эстэтычнага патэнцыялу аж да ператварэння ў пустэчу.

ДЭГРЭСІЎНЫЯ ЭДЫФІКАТАРЫ - дегрессивные эдификаторы (ад лац.*degressio* - адхіленне)- расліны - эдыфікатары біяцэнозу, раслiннасць якога зменена пад уплывам чалавека, жывёл або іншых фактараў. Яны з'яўляюцца эдыфікатарамі толькі часова, уступаючы месца аўтахтонным эдыфікатарам пасля гэтага ўплыву.

ДЭМЭКАЛОГІЯ - демэкология (ад грэч.*demos* -народ)- раздзел экалогіі, які вывучае ўзаемаадносіны папуляцый з навакольным асяроддзем.

ДЭНДРАЛОГІЯ - дендрология (ад грэч.*dendron* - дрэва і *logos* - слова, вучэнне)- раздзел батанікі, які вывучае дрэвавыя расліны - іх знешнюю і ўнутраную будову, таксанамічнае становішча, унутрывідавую сістэматыку і філагенез, фізіялогію, экалогію, геаграфічнае распаўсюджванне і гаспадарчае значэнне.

ДЭНДРАРЫЙ - дендрарий - калекцыя жывых дрэў і кустоў, культываваных у адкрытым грунце.

ДЭСТРУКТАРЫ - деструкторы - арганізмы, якія мінералізуюць мёртвае арганічнае рэчыва да простых неарганічных злучэнняў. У харчовых ланцугах з'яўляюцца іх апошнім звяном. Пераважна мікраарганізмы (сапрафітныя грыбы, бактэрыі).



ДЭТРЫТ - детрит: 1) арганічны іл і рэшткі арганізмаў у водным асяроддзі; 2) зрэдку ўжываецца як сінонім слова "перагной" - гумус.

ДЭТРЫТАФАГ - детритофаг - арганізм, які харчуецца дэтрытам, г.зн. арганічным ілам і рэшткамі арганізмаў у водным асяроддзі, або гумусам (перагноем) у глебе.

ДЭТЭРМІНАНТ - детерминант (вид) - від жывога, які вызначае ўмовы біяасяроддзя ў згуртаванні.

ДЭФІЦЫТ ВІЛЬГОТНАСЦІ (ПАВЕТРА) - дефицит влажности (воздуха) - недахоп насычэння - рознасць паміж максімальна магчымай і фактычнай пругкасцю вадзяной пары пры даных тэмпературы і ціску паветра.

ДЭФІЦЫТ ПУНКТА РАСЫ - дефицит точки росы (*Θ*)- рознасць паміж тэмпературай паветра і пунктам расы.

ЁМІСТАСЦЬ ЛАНДШАФТУ - ёмкость ландшафта - колькасна выражаная здольнасць ландшафту задавальняць якія-небудзь патрэбы чалавека.

ЖЫВЁЛЫ - животные - адно з царстваў прыроды. Група гетэратрофных арганізмаў,як правіла,здольных да актыўнага перамяшчэння і паядаючых арганічнае рэчыва ў выглядзе больш або менш буйных часцчак (акрамя паразітаў, якія ўсмоктваюць растворы арганічных рэчываў).

ЖЫВОЕ НАГЛЕБАВАЕ ПОКРЫВА - живой напочвенный покров - сукупнасць імхоў, лішайнікаў, травяністых раслін і паўкустоў, якія пакрываюць глебу пад полагам лесу, на высечках і гарах; адзін з ярусаў насаджэння.

ЖЫВОЕ РЭЧЫВА - живое вещество - сукупнасць жывых арганізмаў біясферы (расліны, жывёлы, мікраарганізмы).

ЖЫЦЦЕВАСЦЬ - жизненность - ступень стойкасці жывых істот і сістэм да адхіленняў (парушэнняў) акаляючага іх асяроддзя. Вызначаецца інтэнсіўнасцю размнажэння і выжывання патомства, канкурэнтаздольнасцю пры міжвідавых і ўнутрывідавых адносінах, прыстасаванасцю да ўмоў абіятычнага асяроддзя і інш. характарыстыкамі.

ЖЫЦЦЯЗДОЛЬНАСЦЬ НАСЕННЯ - жизнеспособность семян - уласцівасць насення захоўваць здольнасць да прарастання; адзін з паказчыкаў пасяўных якасцей насення. Выражаецца ў працэнтах ад агульнай колькасці жывога насення, узятага для аналізу.

ЗААМАСА - зоомасса (ад грэч.zoon - жывёла і маса) - біямаса жывёл, сумарная маса целаў жывёл на адзінку плошчы.

ЗААФАГ(І) - зоофаг(и) - арганізм, які харчуецца жывёламі, плоцяедны від.

ЗААЦЭНОЗ - зооценоз - сукупнасць узаемазвязаных відаў жывёл, якая склалася на якойсьці прасторы.

ЗАБРУДЖВАННЕ - загрязнение : І)прыўнясенне ў асяроддзе або ўзнікненне ў ім новых, звычайна не характэрных для яго фізічных, хімічных, інфармацыйных ці біялагічных агентаў або завышэнне ў разглядаемы час прыроднага сярэднешматгадовага ўзроўню канцэнтрацыі пералічаных агентаў у асяроддзі, якое нярэдка прыводзіць да негатыўных вынікаў; 2) павелічэнне канцэнтрацыі фізічных, хімічных, інфармацыйных і біялагічных агентаў звыш нядаўна назіраемай колькасці.

ЗАВЯДАННЕ РАСЛІН - завядание растений - страта раслінамі тургару ў выніку парушэння воднага балансу. З.р. узнікае ў тых выпадках, калі страта вады лісцямі ў выніку транспірацыі перавышае паступленне яе ў тканкі, г.зн. адбываецца абязводжванне.

ЗАКАЗНІК - заказник - участак, у межах якога (пастаянна або часова) забаронены асобныя віды і формы гаспадарчай дзейнасці для забеспячэння аховы аднаго ці многіх відаў жывых істот, біягеацэнозаў, аднаго ці некалькіх экалагічных кампанентаў або агульнага характару ахоўваемай мясцовасці.

ЗАКОН(Ы) МІНІМУМУ - закон(ы) минимума - асноўны закон: вынослівасць арганізма вызначаецца самым слабым звяном у ланцугу яго экалагічных патрэбнасцей, г.зн. жыццёвыя магчымасці лімітуюць экалагічныя фактары, колькасць і якасць якіх блізкія да неабходнага арганізма або экасістэмы мінімуму; далейшае іх зніжэнне вядзе да пагібелі арганізма або дэструкцыі экасістэмы.

ЗАМАРАЗАК - заморозок - паніжэнне тэмпературы каляземнага слоя паветра і паверхні глебы да $0^{\circ}C$, або адмоўных значэнняў вечарам і ноччу пры дадатнай тэмпературы днём у цёплую пару года. Адрозніваюць адвектыўныя, радыяцыйныя і адвектыўна-радыяцыйныя(змешаныя) замаразкі.

ЗАНАЛЬНАЯ ЗМЕНА СТАЦЫЙ - зональная смена стаций - заканамерна накіраванае змяненне месцазнаходжання пры пераходзе віду з адной прыроднай зоны ў другую.



ЗАПАВЕДНІК - заповедник: І)асобна ахоўваемая законам ці звычаямі прастора (тэрыторыя, акваторыя), цалкам выключаная з любой гаспадарчай дзейнасці (у тым ліку наведвання людзьмі) дзеля захавання ў нечапаным выглядзе прыродных комплексаў (эталонаў прыроды), аховы відаў жывога і назірання за прыроднымі працэсамі (экал.), а таксама рэлігійных матываў; 2)участак прыроды, забраны для большасці формаў прыродакарыстання, і ўстанова, створаная для аховы і вывучэння гэтага ахоўваемага прыроднага комплексу.

ЗАПАСЫ ДРАЎНІНЫ - запасы древесины - колькасць драўнянай масы на карані без залежнасці ад магчымасці і рацыянальнасці яе забрання ў гаспадарчых мэтах.

ЗАСУХА - засуха - перыяд працяглага і значнага недахопу ападкаў, які суправаджаецца павышанай тэмпературай паветра і як вынік - нізкай вільготнасцю паветра і глебы.

ЗАСУХАЎСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІН - засухоустойчивость растений - здольнасць раслін выносіць засуху з найменшымі шкоднымі вынікамі і з нязначным зніжэннем прадукцыйнасці.

ЗГУРТАВАННЕ - сообщество - сукупнасць арганізмаў рознай функцыянальнай прыналежнасці ў межах пэўнай, аднароднай па фізіка-геаграфічных умовах тэрыторыі. Адрозніваюць расліннае З. (фітацэноз), біятычнае, або экалагічнае,З. (біяцэноз) і інш.

ЗМЕНА ДРЭВАВЫХ ПАРОДАЎ- смена древесных пород- працэс змены на адной і той жа плошчы адных дрэвавых парод інншымі.З.д.п. можа быць вынікам прыроднага развіцця лясной расліннасці (аўтагенныя змены),або выкліканая хістаннямі клімату,дзейнасцю чалавека, катастрафічнымі фактарамі (экзагенныя змены).

ЗМЕНЛІВАСЦЬ - изменчивость - разнастайнасць прыкмет і уласцівасцей у асобін і груп асобін любой ступені роднасці. Адрозніваюць З. спадчынную (мутацыйную) і няспадчынную (мадыфікацыйную), індывідуальную і групавую, якасную і колькасную і інш.

ЗМЕШАНЫЯ АПАДКІ - смешенные осадки - вадкія і цвёрдыя ападкі, якія на працягу сутак выпадаюць адначасова або паслядоўна, пераходзяць з аднаго віду ў другі.

ЗМЕШАНЫ ДРЭВАСТОЙ - смешенный древостой - дрэвастой, утвораны дзвюма і больш дрэвавымі пародамі.

ЗМЕШАНЫЯ ЛЯСЫ - смешенные леса - лясы, утвораныя хваёвымі і драбналістымі пародамі.

ЗЯЛЁНАЯ ЗОНА - зелёная зона - тэрыторыя за межамі гарад-

ской рысы, занятая прыроднымі лясамі, лесапаркамі або зялёнымі насаджэннямі. Садзейнічае аздараўленню паветранага басейна вакол населеных пунктаў, ахове іх ад моцных вятроў, рухомых пяскоў і пылу, з'яўляецца месцам адпачынку.

ІАНАСФЕРА – ионосфера – верхнія слаі атмасферы, пачынаючы ад 50-60 км, якія характарызуюцца значным утрыманнем атмасферных іонаў і свабодных электронаў.

ІЕРАРХІЯ ЭКАСІСТЭМ – иерархия экосистем – функцыянальнае супадпарадкаванне (уваходжанне больш дробных і простых у больш буйныя і складаныя) экасістэм рознага ўзроўню арганізацыі.

ІЗАБАРА – изобара – лінія на карце, якая злучае пункты з аднолькавым атмасферным ціскам.

ІЗАТЭРМА – изотерма – лінія, якая злучае на картах, дыяграмах пункты з аднолькавымі тэмпературамі.

ІЗАТЭРМІЯ – изотермия (ад грэч. *isos* – аднолькавы і *therme* – цяпло) – нязменнасць тэмпературы паветра з вышынёй у некаторым слаі атмасферы.

ІМЖА – морось (изморось) – атмасферныя ападкі ў выглядзе кропелек вады памерам да 0,5 мм.

ІМУНІТЭТ РАСЛІН – иммунитет растений (ад лац. *immunitas* – вызваленне ад чаго-небудзь) – поўная, або абсалютная, неўспрыймальнасць раслін да інфекцыйных хвароб пры наяўнасці кантакту з узбуджальнікамі гэтых хвароб і неабходных для заражэння умоў.

ІНВЕНТАРЫЗАЦЫЯ ЛЕСУ – инвентаризация леса (ад лац. *inventarium* – вопіс маёмасці) – комплекс работ па вопісу і картаванню насаджэнняў і асобных участкаў лесу. Праводзіцца пры таксацыі лесу або самастойна.

ІНВЕНТАРЫЗАЦЫЯ ЛЯСНЫХ КУЛЬТУР – инвентаризация лесных культур – праверка ў натуры стану лясных культур з мэтай вызначэння якасці і эфектыўнасці выканання лесаўзнаўленчых (лесакультурных) работ, адпаведнасці іх зацверджаным праектам і назначэння неабходных лесагаспадарчых мерапрыемстваў.

ІНВЕРСІЯ ТЭМПЕРАТУРНАЯ – инверсия температурная (ад лац. *inversio* – пераварочванне, перастаноўка) – павышэнне тэмпературы паветра з вышынёй замест звычайнага для трапасферы яе ўбывання.

ІНВЕРСІЯ ФІТАЦЭНАТЫЧНАЯ – инверсия фитоценотическая – 



размяшчэнне фітацэнозаў у парадку, зваротным закону высотнай пояснасці – вышэй па схіле растуць згуртаванні больш цяплолюбівых раслін.

ІНДЫКАТАР СУКЦЭСІЙНЫХ ПРАЦЭСАЎ – индикатор сукцессионных процессов – від, прысутнасць якога ўказвае на тое, што дадзенае згуртаванне перажывае дынамічныя змяненні і яшчэ не дасягнула клімаксавай фазы развіцця.

ІНДЫКАТАР УМОЎ – индикатор условий – тэрмін, які адносіцца галоўным чынам да жывых арганізмаў – індыкатараў (біяіндыкатараў) або індыкатарных згуртаванняў як паказчыкаў інтэгральнага (агульнага) стану знешняга асяроддзя, якое ўключае фізічныя, хімічныя, біялагічныя і іншыя фактары, іх інтэнсіўнасць, суадносіны паміж сабой, скорасць і ступень змянення.

ІНДЫКАТАРНЫЯ РАСЛІНЫ – индикаторные растения – расліны, прыстасаваныя да пэўных умоў месца жыцця і выкарыстоўваемыя ў якасці паказчыка гэтых умоў.

ІНДЭКС (ПАКАЗЧЫК) ВІДАВОЙ РАЗНАСТАЙНАСЦІ – индекс (показатель) видового разнообразия – суадносіны паміж лікам відаў і любым паказчыкам "значнасці" (колькасці асобін, біямасы, прадукцыйнасці і да т.п.).

ІНДЭКС ЛІСЦЕВАЙ ПАВЕРХНІ – индекс листовой поверхности – адносіны сумарнай паверхні лісцяў (аднабокай) і хвоі (поўнай) да адзінкі плошчы ўчастка, занятага фітацэнозам або яго асобнымі ярусамі.

ІНДЭКС СОНЕЧНАЙ АКТЫЎНАСЦІ – индекс солнечной активности – колькасная характарыстыка ступені сонечнай актыўнасці; уяўляе сабой лік сонечных плям і іх груп, выражаны ў форме умоўнага паказчыка.

ІНДЭКС СУХАСЦІ РАДЫЯЦЫЙНЫ – индекс сухости радиационный – адносіны паміж радыяцыйным балансам тэрыторыі і гадавой сумай ападкаў.

ІНЕЙ – иней – белыя, рыхлыя, снегападобныя ледзяныя крышталі, якія ўтвараюцца на галінах дрэў, хвоі, правадах і іншых вертыкальных паверхнях і лёгка абсыпаюцца. Узнікае ў выніку сублімацыі вадзяной пары на паверхні прадметаў, тэмпература якіх ад цеплавога выпрамянення стала ніжэй за $0^{o}$С.

ІНСАЛЯЦЫЯ - инсоляция (ад лац.*insolatio*- выстаўляю на сонца) - апрамяненне зямной паверхні сонечнай радыяцыяй, прамой або сумарнай. Ужываецца і як назва патоку прамой радыяцыі на гарызантальную паверхню (I'), або іншую паверхню (схілаў, сцен).

ІНТРАДУКЦЫЯ - интродукция: І) наўмысны або выпадковы перанос асобін якога-небудзь віду жывога за межы арэала; 2)паспяховае ўкараненне (дзякуючы свядомай ці несвядомай дзейнасці чалавека) нейкага далёкага віду у мясцовыя прыродныя комплексы.

КАМБІЙ - камбий (ад познелац.*cambium*-абмен, змена)- утваральная тканка (мерыстэма) раслін, якая дае пачатак другасным праводзячым тканкам - другасным ксілеме (драўніна) і флаэме (луб) і забяспечвае рост восевых органаў у таўшчыню.

КАМЕНСАЛІЗМ - комменсализм (ад познелац.*commensa* -сатрапезнік) - часовае або пастаяннае сумеснае жыццё жывёл розных відаў, пры якім адзін з партнёраў (каменсал) жывіцца рэшткамі ежы ці прадуктамі выдзялення другога, не наносячы яму шкоды.

КАМПАНЕНТ(Ы) ЭКАЛАГІЧНЫ(Я)(БІЯГЕАЦЭНОЗУ, ЛАНДШАФТУ,АСЯРОДДЗЕЎТВАРАЛЬНЫ)- компонéнт(ы) экологический(е)(биогеоценоза, ландшафта, средообразующий) - асноўныя матэрыяльна-энергетычныя складаючыя экалагічных сістэм: энергія (уключыўшы ўсе прамянёвыя, хвалевыя і квантавыя крыніцы),газавы склад (атмасфера), вада (вадкая складаючая), глебасубстрат, аўтатрофы - прадуцэнты і арганізмы гетэратрофы - кансументы і рэдуцэнты.

КАНВЕКЦЫЯ АТМАСФЕРНАЯ - конвекция атмосферная (ад лац. *convectio*- прынясенне, дастаўка) - падыманне ў атмасферы больш нагрэтых і менш шчыльных масаў паветра з адначасовым апусканнем халаднейшых і шчыльнейшых масаў.

КАНДЭНСАЦЫЯ - конденсация - пераход вадзяной пары ў вадкі стан.

КАНІБАЛІЗМ - каннибализм: І) паяданне асобін свайго ж віду, часам свайго патомства; 2) людаедства.

КАНКУРЭНЦЫЯ - конкуренция (ад лац. *concurrere* -бегчы разам)- узаемаадносіны актыўнага спаборніцтва паміж асобінамі аднаго ці розных відаў за сродкі існавання і ўмовы размнажэння.

КАНСОРЦЫЯ - консорция (ад лац.*consortium* -саўдзельніцтва, згуртаванне) - структурная адзінка біяцэнозу, якая аб'ядноўвае аўтатрофныя і гетэратрофныя арганізмы на аснове прасторавых (тапічных) і харчовых (трафічных) сувязей і залежыць ад цэнтральнага члена згуртавання.



КАНСУМЕНТЫ - консументы(ад лац.*consumcio* -спажываю)- арганізмы, якія з'яўляюцца ў харчовых ланцугах спажыўцамі арганічнага рэчыва.

КАНСУМЕНТ ПЕРШАСНЫ (ПЕРШАГА ПАРАДКУ) - консумент первичный (первого порядка) - арганізм, які харчуецца раслiннай ежай.

КАНСУМЕНТ ДРУГАСНЫ (ДРУГОГА ПАРАДКУ) - консумент вторичный (второго порядка) - арганізм, які харчуецца жывёльнай ежай.

КАНСУМЕНТ ТРАЦІЧНЫ (ТРЭЦЯГА ПАРАДКУ) - консумент третичный (третьего порядка) - драпежнік, які харчуецца драпежнікамі. Яго яшчэ называюць драпежнікам другога парадку.

КАРАНЁВАЯ СІСТЭМА - корневая система - сукупнасць каранёў адной расліны.

КАРЭННЫЯ ЛЯСЫ - коренные леса - лясы, якія доўгі час растуць на адным месцы без змены парод і развіваюцца амаль без уплыву чалавека.

КВЕТКА - цветок - складаны орган насеннага размнажэння кветкавых (пакрытанасенных) раслін. Па марфалагічнай прыродзе К. - укарочаны, абмежаваны ў росце рэпрадуктыўны парастак.

КВЕТКАВЫЯ РАСЛІНЫ - цветковые растения - пакрытанасенныя, тып раслін, якія маюць кветку як асобны орган палавога размнажэння. У адрозненне ад голанасенных раслін семязачаткі у К.р. знаходзяцца у поласці завязі, закрытыя і пылок трапляе на рыльца. Спелае насенне знаходзіцца ў плодзе. К.р.маюць разнастайныя жыццёвыя формы - дрэвы, кусты, паўкусты, ліяны, аднагадовыя і шматгадовыя травы.

КІСЛОТНАСЦЬ ГЛЕБЫ - кислотность почвы - уласцівасць глебы, абумоўленая наяўнасцю іонаў вадароду (Н-іонаў) у глебавым растворы, а таксама абменных іонаў вадароду і алюмінію у глебавым паглынальным комплексе; пры няпоўнай нейтралізацыі надае глебе кіслую рэакцыю. Адрозніваюць К.г. актуальную (актыўную) і патэнцыяльную (пасіўную, скрытую), якая падраздзяляецца на абменную і гідралітычную.

КЛАС БАНІТЭТУ - класс бонитета - адзінка ацэнкі прадук-

цыйнасці насаджэння. Гл. банітэт насаджэння.

КЛІМАКС - климакс (ад грэч. klimax - лесвіца) - заключная стадыя развіцця біяцэнозу, на якой ён знаходзіцца ў стане дынамічнай раўнавагі з навакольным асяроддзем дастаткова працяглы час.

КЛІМАТ - климат - шматгадовы рэжым надвор'я, які вызначаецца геаграфічнай шыратой мясцовасці, вышынёй над узроўнем мора, аддаленасцю мясцовасці ад акіяна, рэльефам сушы, характарам падысподняй паверхні, антрапагеннымі ўздзеяннямі і інш. фактарамі.

КЛІМАТОП - климатоп - спалучэнне фізічных характарыстык асяроддзя - паветранага або воднага, істотных для насяляючых гэта асяроддзе арганізмаў (іх згуртаванняў).

КОЛА БІЯТЫЧНАГА АБМЕНУ ВЯЛІКАЕ (БІЯСФЕРНАЕ) - круг биотического обмена большой (биосферный) - няспынны планетарны працэс заканамернага цыклічнага, нераўнамернага ў часе і прасторы пераразмеркавання рэчыва, энергіі і інфармацыі (2,3), шматразова ўваходзячых (акрамя аднанакіраванага патоку энергіі) у экалагічныя сістэмы біясферы, якія бесперапынна абнаўляюцца.

КОЛА БІЯТЫЧНАГА АБМЕНУ МАЛОЕ (БІЯГЕАЦЭНАТЫЧНАЕ) - круг биотического обмена малый (биогеоценотический) - шматразовае няспыннае, цыклічнае, але нераўнамернае ў часе і незамкнутае абарачэнне часткі рэчываў, энергіі і інфармацыі (2,3), уваходзячых у біясфернае кола абмену, у межах элементарнай экалагічнай сістэмы - біягеацэнозу.

КОЛЬКАСЦЬ АПАДКАЎ - количество осадков - таўшчыня (у мм) слоя вады, якая выпала на гарызантальную паверхню.

КОЛЬКАСЦЬ ПАПУЛЯЦЫІ - численность популяции - агульная колькасць асобін на дадзенай тэрыторыі ці ў дадзеным аб'ёме.

КОСНЫЯ КАМПАНЕНТЫ - косные компоненты - энергія і першасныя матэрыялы (сонечнае выпраменьванне, газы, вада, мінеральныя рэчывы), ад забеспячэння якімі залежыць жыццядзейнасць біёты, рэчыва-энергетычны абмен і агульная арганізацыя экасістэмы (біягеацэнозу).

КРУГАВАРОТ БІЯГЕАХІМІЧНЫ - круговорот биогеохимический - частка біялагічнага (біятычнага) кругавароту, складзеная абменнымі цыкламі хімічных рэчываў, цесна звязаных з жыццём, галоўным чынам вугляроду, вады, азоту, фосфару, серы і біягенных катыёнаў.



КРУГАВАРОТ БІЯЛАГІЧНЫ (БІЯТЫЧНЫ) - круговорот биологический (биотический) - бесперапынны цыклічны перанос пераразмеркавання рэчываў у межах экалагічных сістэм рознага ўзроўню - ад асобных біягеацэнозаў да біясферы ў цэлым.

КРУГАВАРОТ РЭЧЫВАЎ - круговорот веществ - працэсы ператварэння і перамяшчэння рэчываў на Зямлі, якія маюць адносна цыклічны характар і пэўны накіраваны напрамак. Адрозніваюць кругаварот вялікі (геалагічны) і малы (біялагічны).

КРУПЫ - крупа - цвёрдыя ападкі ў выглядзе дробных часцінак з празрыстай ледзяной абалонкай (ледзяныя крупы) або непразрыстых круглаватых снежных матава-белых часцінак (снежныя крупы) дыяметрам каля 2-5 мм.

КРЫВАЯ ВЫЖЫВАННЯ - кривая выживания - графік, які паказвае лік асобін віду, выжыўшых да пэўнага прамежку часу.

КСЕРАФІЛЬНЫЯ АРГАНІЗМЫ - ксерофильные организмы (ад грэч. xeros - сухі) - наземныя арганізмы, прыстасаваныя да жыцця ў сухіх месцах.

КУСТ - кустарнік - шматгадовая дрэвападобная расліна, разгалінаваная ля самай паверхні глебы (у адрозненне ад дрэў) і не маючая ў сталым стане галоўнага ствала (сцябло добра выражана толькі ў першы год жыцця); адна з жыццёвых формаў раслін.

КУСЦІК - кустарничек - нізкарослая расліна з адраўнелымі шматгадовымі, звычайна моцна разгалінаванымі парасткамі; у дарослым стане не мае галоўнага ствала; у адрозненне ад кустоў вышыня іх не перавышае 50-80 см.

КУРОРТНЫЯ ЛЯСЫ - курортные леса - лясныя масівы, размешчаныя на тэрыторыі акруг санітарнай аховы курортаў. Адносяцца да лясоў I групы.

ЛАГЧЫНА - ложбина - звязаная з цыклонам і выцягнутая ад яго цэнтра паласа паніжанага ціску, укліненая паміж двума антыцыклонамі.

ЛАНДШАФТ - ландшафт - прыродны геаграфічны комплекс, у якім усе асноўныя кампаненты: рэльеф, клімат, воды, глебы, расліннасць і жывёльны свет - знаходзяцца ў складаным узаемадзеянні і ўзаемаабумоўленасці, утвараючы аднародную па ўмовах развіцця адзіную непарыўную сістэму.

ЛАНДШАФТНЫЯ ВЫСЕЧКІ - ландшафтные рубки - высечкі фар-

міравання ландшафту - высечкі у рэкрэацыйных лясах, накіраваныя на фарміраванне устойлівых участкау лесу высокай дэкаратыунасці.

ЛАНЦУГ ТРАФІЧНЫ (ХАРЧОВЫ) - цепь трофическая (пищевая) - рад відау або іх груп, кожнае наступнае звяно у якім служыць харчам для наступнага. У межах Л.т. адрозніваюць траваеднасць, паразітызм і драпежніцтва.

ЛЕДЗЯНЫ ДОЖДЖ - ледяной дождь - празрыстыя ледзяныя шарыкі памерам ад І да 3 мм.

ЛЕС - лес - адзін з асноуных тыпау расліннасці, які складаецца з сукупнасці дрэвавых, кустовых, травяністых і іншых раслін (імхі, лішайнікі), уключае жывёл і мікраарганізмы, біялагічна узаемазвязаныя у сваім развіцці і уплываючыя адзін на аднаго і на знешняе асяроддзе.

ЛЕСААДНАЎЛЕННЕ - лесовозобновление - тое ж, што і аднауленне лесу.

ЛЕСАВОДСТВА - лесоводство: І) навука аб прыродзе, метадах вырошчвання і паляпшэння лесу, павышэння яго прадукцыйнасці. Дзеліцца на лесазнауства і уласна лесаводства; 2) галіна раслінаводства, якая займаецца вырошчваннем лесу для атрымання драуніны, інш. прадуктау лесу і выкарыстання яго з ахоунымі лячэбна-аздарауленчымі эстэтычнымі мэтамі і інш.

ЛЕСАЗНАЎСТВА - лесоведение - вучэнне пра лес, сукупнасць ведау аб прыродзе лесу; навукова-тэарэтычная частка лесаводства.

ЛЕСАКУЛЬТУРНАЯ ПЛОШЧА - лесокультурная площадь - участак, прызначаны для стварэння лясных культур.

ЛЕСАНАСАДЖЭННЕ - лесонасаждение - прафесійны тэрмін з вобласці лесаводства, які азначае любы лес, не толькі саджаны, але і прыродны.

ЛЕСАРАЗВЯДЗЕННЕ - лесоразведение - стварэнне і вырошчванне штучных лясных насаджэнняу (лясных культур) на тэрыторыях, дзе раней не было лесу.

ЛЕСАСЕКА - лесосека - участак лесу, адведзены для высечак галоунага або прамежкавага карыстання, абмежаваны візірамі, лесасечнымі знакамі (слупамі, каламі) або натуральнымі рубяжамі.

ЛЕСАЎЗНАЎЛЕННЕ - лесовосстановление - актыуная (з дапамогай чалавека) форма лесааднаулення на тэрыторыях, якія раней, як правіла, знаходзіліся пад лесам.



ЛЕСАЎПАРАДКАВАННЕ - лесоустройство - спецыялізаваны від лесагаспадарчай дзейнасці, які забяспечвае распрацоуку сістэмы дзяржауных мерапрыемствау, накіраваных на рацыянальнае выкарыстанне, павышэнне прадукцыйнасці, узнауленне, ахову і абарону лясоу, павышэнне культуры вядзення лясной гаспадаркі.

ЛЕСАЎТВАРАЛЬНЫЯ ПАРОДЫ - лесообразующие породы - дрэвавыя пароды, здольныя у межах свайго арэала утвараць верхні ярус насаджэння.

ЛІК ВОЛЬФА - число Вольфа (W) - колькасная характарыстыка ступені сонечнай актыунасці; уяуляе сабой лік сонечных плям і іх груп, выражаных у форме умоунага паказчыка.

ЛІМІТАВАНЫ ФАКТАР - лимитированный фактор - экалагічны фактар, наяуны у найменшай ці найбольшай колькасці, які абмяжоувае функцыяніраванне арганізма ці усяго згуртавання.

ЛІСТ - лист - бакавы орган вышэйшых раслін, які здзяйсняе асноуныя працэсы жыццядзейнасці - фотасінтэз, дыханне, транспірацыю і інш.

ЛІСЦЕВЫЯ ЛЯСЫ - лиственные леса - групы лясных фармацый, у якіх дрэвавы ярус утвораны дрэвамі з буйнымі або дробнымі ліставымі пласцінкамі.

ЛІСЦЕВЫЯ ПАРОДЫ - лиственные породы - дрэвы і кусты у асноуным з пласціністымі, у большасці чаранковымі лісцямі і разгалінаваным жылкаваннем ліставой пласцінкі.

ЛЯСІСТАСЦЬ - лесистость - ступень аблесенасці тэрыторыі. Вызначаецца адносінамі пакрытай лесам плошчы да агульнай плошчы; выражаецца у працэнтах.

ЛЯСНАЯ ФАУНА - лесная фауна (ад лац. Fauna - у рымскай міфалогіі - багіня лясоу, заступніца жывёл) - сукупнасць відау жывёл, насяляючых лясы зямнога шара; складае да палавіны агульнай колькасці наземных жывёл.

ЛЯСНЫ ГУМУС - лесной гумус - арганічнае рэчыва, складзенае з адмерлых раскладзеных рэшткау раслін і спецыфічных гумусавых рэчывау верхніх акумулятыуных гарызонтау лясной глебы.

ЛЯСНЫ МАСІЎ - лесной массив - значная цэласная тэрыторыя лесу, якая мае натуральныя граніцы (рэкі, азёры, узгоркі) або мяжуе на вялікай працягласці з іншымі угоддзямі (палі, лугі), населенымі пунктамі.

ЛЯСНЫ ФОНД - лесной фонд - адзіны дзяржаўны лясны фонд краіны, сукупнасць усіх лясоў у краіне.

ЛЯСНЫЯ КАРЫСТАННІ - лесные пользования - выкарыстоўванне карысных уласцівасцей лясоў і зямель адзінага дзяржаўнага лясного фонду (нарыхтоўка драўніны, жывіцы, другарадных лясных матэрыялаў і інш.).

ЛЯСНЫЯ КУЛЬТУРЫ - лесные культуры: I) насаджэнні, створаныя пасевам або пасадкай дрэвавых і кустовых парод; 2)навуковая дысцыпліна, якая вывучае і распрацоўвае тэорыю і практыку штучнага аднаўлення лесу.

ЛЯСНЫЯ ПЛОШЧЫ - лесные площади - пакрытыя лесам, а таксама не пакрытыя лесам тэрыторыі (неаблесеныя лесасекі, прагаліны, пусткі і да т.п.), выдзеленыя ў складзе зямель адзінага дзяржаўнага лясного фонду. Асноўнае назначэнне Л.п. - вырошчванне лесу.

МАЗАІЧНАСЦЬ - мозаичность (ад італ.*mosaico*-стракатая сумесь) - неаднароднасць біяцэнозу (або фітацэнозу) у гарызантальнай прасторы, што адлюстроўваецца ў змяненні колькасных суадносін раслінных відаў, самкнутасці, прадукцыйнасці і іншых паказчыкаў.

МАНАФАГ - монофаг - арганізм, які харчуецца толькі адным кормам, напр., лісцем аднаго віду раслін, толькі адным відам жывёл, толькі рэчывам рога і г.д.

МАНІТОРЫНГ - мониторинг - назіранні за якімі-небудзь аб'ектамі або з'явамі. Прынята дзяліць М. на базавы, або фонавы, М. глабальны, М. рэгіянальны і М. імпактны, а таксама па метадах вядзення і аб'ектах назірання (авіяцыйны, касмічны, лясны, навакольнага асяроддзя).

МАКРАКЛІМАТ - макроклимат - клімат значных геаграфічных прастораў - ад геаграфічнага раёна да планеты ў цэлым.

МАСАВАЯ ДОЛЯ ВАДЗЯНОЙ ПАРЫ ($q$) - массовая доля водяного пара ($q$) - удзельная вільготнасць - адносіны масы вадзяной пары да масы вільготнага паветра, змешчанага ў дадзеным аб'ёме.

МЕЗАКЛІМАТ - мезоклимат: I) клімат буйнога падраздзялення геаграфічнага ландшафту, звычайна характарызуецца метэаралагічнымі назіраннямі ў адным пункце; 2) клімат лесу, паляны, логу, горада і да т.п.



МЕЗАСФЕРА - мезосфера - слой атмасферы на вышыні ад 50 да 90 км над стратасферай. Характэрна паніжэнне тэмпературы ад 0°С на ніжняй мяжы да -90°С на верхняй.

МЕЗАТРОФНЫЯ РАСЛІНЫ (МЕЗАТРОФЫ) - мезотрофные растения (мезотрофы) (ад грэч.*mesos*- сярэдні і *trophe*- харч, харчаванне) - расліны, якія растуць на глебах з сярэднім утрыманнем пажыўных рэчываў. Займаюць прамежкавае становішча паміж алігатрофнымі і эўтрофнымі раслінамі.

МЕЗАФАУНА - мезофауна - жывёлы ад 500 мкм да 10 мм.

МЕЗАФІЛЬНЫЯ АРГАНІЗМЫ - мезофильные организмы (ад грэч. *mesos* - сярэдні, прамежкавы) - наземныя арганізмы, адметныя ўмеранай патрэбнасцю ў вадзе ці вільготнасці паветра.

МЕСЦАПРАЖЫВАННЕ ВІДУ - местообитание вида - прасторава абмежаваная сукупнасць умоў абіятычнага і біятычнага асяроддзя, якая забяспечвае ўвесь цыкл развіцця асобін, папуляцыі ці віду ў цэлым,- месца (тэрыторыя, акваторыя) з пэўнымі ўмовамі, дзе знаходзіцца дадзены від жывога.

МЕТАБАЛІЗМ - метаболизм (ад грэч.*metabole*-перамена, ператварэнне) - пераўтварэнне пэўных рэчываў унутры клетак з моманту іх паступлення да ўтварэння канечнага прадукту (напр., М.бялковы, М. глюкозы і г.д.).

МЕТЭАРАЛОГІЯ - метеорология (ад грэч.*meteora* - атмасферныя і нябесныя з'явы і *logos* - пазнанне) - навука аб фізічных працэсах і з'явах, якія адбываюцца ў атмасферы Зямлі, ва ўзаемадзеянні з зямной паверхняй і касмічным асяроддзем.

МЕТЭАРАЛАГІЧНЫЯ ВЕЛІЧЫНІ - метеорологические величины - характарыстыкі стану атмасферы і атмасферных з'яў. Да асноўных М.в. адносяцца: тэмпература, ціск, шчыльнасць і вільготнасць паветра, скорасць і напрамак ветру; колькасць, вышыня і таўшчыня воблакаў; інтэнсіўнасць атмасферных ападкаў; метэаралагічная далёкасць бачнасці; вадкаснасць туманаў, воблакаў і ападкаў; патокі праменнай энергіі і цяпла і інш.

МЕТЭАРАЛАГІЧНАЯ СТАНЦЫЯ - метеорологическая станция - установа, якая праводзіць рэгулярныя назіранні за станам атмасферы і зямной паверхні.

МЕТЭАРАЛАГІЧНЫ ПОСТ - метеорологический пост - пункт для рэгулярных метэаралагічных назіранняў па скарочанай, у адрозненне ад метэаралагічных станцый, праграме.

МІГРАНТ - мигрант: 1) асобіна, якая удзельнічае у міграцыі жывёл; 2) асоба, якая перасякае межы тых ці іншых тэрыторый са зменай пастаяннага месца жыхарства назаўсёды або на доўгі час.

МІГРАЦЫЯ ЖЫВЁЛ - миграция животных: 1) перыядычнае або неперыядычнае, гарызантальнае і вертыкальнае перамяшчэнне жывёл за індывідуальны (сямейны) участак пражывання дадзенай асобіны (іх групы) у разглядаемы сезон, год або шэраг гадоў; 2) перамяшчэнне жывёл на значныя адлегласці за межы трафічнага і (або) рэпрадукцыйнага арэала (вавёркі і інш.).

МІКАРЫЗА - микориза - сімбіятычнае пражыванне грыбоў на каранях і у тканках каранёў раслін, якое забяспечвае сімбіёнтам атрыманне часткі пажыўных рэчываў адзін ад аднаго.

МІКРААРГАНІЗМ(Ы) - микроорганизм(ы) - арганізмы, велічыня якіх ад 50 да 500 мкм (для жывёл - драбней за 500 мкм), часам ужываецца для недакладнай замены тэрміна драбянкі.

МІКРАКЛІМАТ - микроклимат: 1) клімат невялікай тэрыторыі або штучнага ўтварэння (узлеску, схілу ўзгорка, берага возера, нары, кроны дрэва і г.д.); 2) клімат прыземнага слоя паветра на параўнальна невялікай тэрыторыі.

МІКРАФЛОРА - микрофлора: 1) флора мікраарганізмаў у згуртаванні (біягеацэнозе, кішэчніку і г.д.); 2) бактэрыі, некаторыя грыбы (актынаміцэты) і водарасці.

МІКРАФАУНА - микрофауна - жывёлы , драбнейшыя за 500 мкм.

МІКРОБАЦЭНОЗ - микробоценоз - згуртаванне мікраарганізмаў, разглядаемае у біягеацэналогіі як асобы асяроддзеўтваральны кампанент (рэдуцэнты).

МНОСТВА - обилие - абсалютна, адносна або вакамерна устаноўленая колькасць (для раслін і праектыўнае пакрыццё) асобін, аднесеная да якога-небудзь пункта назірання, спосабу ўліку або пэўнай плошчы.

МУСОНЫ - муссоны - устойлівыя вятры, напрамак якіх рэзка змяняецца на супрацьлеглы два разы за год. Зімнія мусоны часцей накіраваны з сушы на акіян, летнія - з акіяна на сушу.

МУТАГЕН - мутаген - любы агент (фактар), які выклікае мутацыю.

МУТАЦЫЯ - мутация - рэзкае спадчыннае змяненне арганізмаў, якое заключаецца у змене іх марфалагічных і (або) фізіялага-паводзінных прыкмет.



МУТУАЛІЗМ - мутуализм (ад лац. *mutuus* - узаемны) - форма ўзаемаадносін, якая прыносіць узаемную карысць папуляцыям абодвух відаў, для якіх сумеснае жыццё з'яўляецца абавязковым.

МЯККАЛІСТЫЯ ПАРОДЫ - мягколиственные породы - лісцевыя дрэвавыя пароды, якія даюць мяккую драўніну. Да іх адносяць ліпу, таполю, вольху і інш.

НААГЕНЕЗ - ноогенез - эвалюцыйны этап біясферы, цалкам накіраваны чалавечай свядомасцю, або свядомае кіраванне біясферай на аснове пазнання законаў прыроды і удасканаленай тэхнікі.

НААСФЕРА - ноосфера (ад грэч. *noos* -розум і *sphaira* -абалонка Зямлі, у межах якой адбываецца ўзаемадзеянне грамадства і прыроды. Новы эвалюцыйны стан біясферы, звязаны з узнікненнем і развіццём чалавечай свядомасці.

НАДВОР'Е - погода - стан атмасферы у пэўным месцы у вызначаны момант або прамежак часу (суткі, месяц і інш.). Характарызуецца прыблізнымі, спрошчанымі тэрмінамі (халоднае, цёплае, гарачае, сухое, дажджлівае) або сукупнасцю значэнняў метэаралагічных велічыняў і атмасферных з'яў.

НАПРАМАК ВЕТРУ - направление ветра - кропка гарызонта, адкуль дзьме вецер. Вымяраецца па румбах гарызонта або градусамі азімута (вугал паміж гарызантальным вектарам скорасці ветру і мерыдыянам).

НАРАДЖАЛЬНАСЦЬ - рождаемость - рост ліку новых асобін у папуляцыі за кошт размнажэння, сярэдняя колькасць нашчадкаў у тым ліку дзяцей (на адну сотню або тысячу асобін, што размнажаюцца), за год або іншую адзінку часу.

НАРМАЛЬНЫ АТМАСФЕРНЫ ЦІСК - нормальное атмосферное давление - сярэдні ціск паветра на ўзроўні мора. Складае 1013,2 гПа.

НАСАДЖЭННЕ - насаждение - саджаныя участкі лесу або натуральныя лясныя фітацэнозы; элементарны, аднародны у пэўных межах участак лесу, заняты дрэвавай і спадарожнай ёй іншайляснои раслінносцю.

НАТУРАЛІЗАЦЫЯ - натурализация - ужыўленне новага для дадзенага згуртавання віду, звязанае з набыццём гэтым відам спецыяльных адаптацый.

НЕЛЯСНЫЯ ПЛОШЧЫ - нелесные площади - не пакрытыя лесам

тэрыторыі (неаблесеныя лесасекі, прагаліны, пусткі і да т.п.), выдзеленыя ў складзе зямель адзінага дзяржаўнага ляснога фонду.

НЕЙТРАЛІЗМ - нейтрализм (ад лац. *neuter* - ні той, ні другі) - форма ўзаемадзеяння паміж папуляцыямі двух відаў, узаемнае існаванне якіх не адбіваецца ні на адным з іх.

НІША ЭКАЛАГІЧНАЯ - ниша экологическая - месца віду ў прыродзе, якое уключае не толькі становішча віду ў прасторы, але і функцыянальную ролю яго ў згуртаванні (напр.,трафічны статус) і яго становішча адносна абіятычных умоў існавання (тэмпературы, вільготнасці і г.д.).

ОПТЫМУМ ФІТАЦЭНАТЫЧНЫ - оптимум фитоценотический - найлепшыя умовы, пры якіх расліны дадзенага віду могуць адыгрываць найбольшую ролю ў раслінным згуртаванні .

ОПТЫМУМ ЭКАЛАГІЧНЫ - оптимум экологический: I) умовы, у якіх від мае большую жыццяздольнасць - здольнасць да размнажэння, выйгрыш пры міжвідавых адносінах і прыстасаванасць да абіятычных фактараў; 2) умовы, у якіх дадзенае згуртаванне мае перавагі перад іншымі; 3) дынамічна-балансавае спалучэнне асяроддзеутваральных кампанентаў, якое забяспечвае ва ўмовах іх прыродных цыклічных ваганняў экалагічную раўнавагу ў клімаксавай экасістэме або накіроўвае сукцэсійны працэс у бок утварэння клімаксу.

ПАВЕТРА АТМАСФЕРНАЕ - воздух атмосферный - натуральная сумесь газаў, якая склалася ў ходзе эвалюцыі Зямлі: азот - 78,09 % ,кісларод - 20,95%, аргон - 0,93%, вуглякіслы газ - 0,03%, невялікая колькасць іншых (акрамя аргону ) інертных газаў.

ПАВЕТРАНЫЯ МАСЫ - воздушные массы - вялікія аб'ёмы паветра ў трапасферы, сувымерныя па плошчы з часткамі мацерыкоў і акіянаў. Кожная паветраная маса валодае пэўнымі аднароднымі уласцівасцямі і перамяшчаецца як цэлае ў адной з сістэм плыняў.

ПАВЕТРАНЫ РЭЖЫМ ГЛЕБЫ - воздушный режим почвы - утрыманне і склад паветра глебы за пэўны час (суткі, сезон, год); важны фактар глебавай урадлівасці.

ПАДЛЕСАК - подлесок - кусты і частка дрэў, якія не дасягнулі вышыні верхніх ярусаў - ляснога згуртавання і не ўваходзяць у пануючы дрэвавы полаг (ядловец, брызгліна, арэшнік і інш.).



ПАДРОСТ - подрост - маладое пакаленне дрэвавых раслін, пад полагам лесу або на высечках, здольнае выйсці ў першы ярус насаджэння, змяніўшы стары мацярынскі дрэвастой.

ПАКРЫЦЦЕ ПРАЕКТЫЎНАЕ - покрытие проективное - плошча праекцыі наземных частак раслін (іх агульнага контура) на паверхню глебы.

ПАКРЫЦЦЕ ПРАЎДЗІВАЕ - покрытие истинное - частка паверхні, непасрэдна занятая асновамі раслін, г.зн. гарызантальная праекцыя асноў парасткаў (сцяблоў) раслін ля паверхні глебы.

ПАЛІФАГ - полифаг - арганізм, які харчуецца разнастайным кормам, але не ўсяедны, а, як правіла, аддае перавагу групе корму хоць і вялікай, але адносна цеаснай сістэматычнай катэгорыі (напр., беспазваночных жывёл, усіх грыбоў і да т.п.).

ПАЛЯНА - поляна - участак нелясной плошчы, размешчаны сярод лесу і зарослы травой.

ПАНДЭМІЯ - пандэмия- эпідэмія, ахапіўшая ўвесь свет або большую яго частку.

ПАПУЛЯЦЫЯ - популяция (ад лац. *populus* - народ, насельніцтва) - сукупнасць раслінных ці жывёльных арганізмаў аднаго віду, якія займаюць на працягу доўгага часу пэўную тэрыторыю, унутры якой адсутнічаюць ізаляцыйныя бар'еры і здзяйсняецца вольнае скрыжаванне (панміксія).

ПАРАЗІТЫЗМ - паразитизм (ад грэч. *para* -пры і *sitos* - хлеб) - форма міжвідавых узаемаадносін, пры якой адзін арганізм (паразіт) існуе за кошт аднаго або некалькіх іншых (гаспадароў) і ускладае на іх часткова або цалкам рэгуляцыю сваіх узаемаадносін са знешнім асяроддзем. Арганізмы-паразіты жывуць на паверхні (эктапаразіты) або ў целе (эндапаразіты) гаспадара.

ПАРАСТАК - побег - адзін з асноўных органаў раслін, які складаецца з восі сцябла і адыходзячага ад яго лісця і пупышак (часам нясе і органы размнажэння - спарангіі, страбілы, кветкі). Разам з каранёвай сістэмай складае цела плаўноў, хвашчоў, папаратнікаў і насенных раслін.

ПАРЦЭЛА - парцелла - дробная біяхаралагічная адзінка:

I) структурная частка гарызантальнага расчлянення фітацэнозу (або біягеацэнозу), што абдымае усю яго тоўшчу, выдзяляецца з асобін або сем'яў, якія жывуць у непасрэднай блізкасці адзін ад аднаго і часта кантактуюць між сабой; адрозніваецца ад іншых частак складам і уласцівасцямі кампанентаў, спецыфікай іх сувязей і рэчыва-энергетычным абменам.

ПАСАТЫ - пассаты - устойлівыя паветраныя плыні ў трапічных шыротах над акіянамі. У паўночным паўшар'і напрамак пасатаў пераважна паўночна-ўсходні, у паўднёвым - паўднёва-ўсходні.

ПАСТУПОВАЯ ВЫСЕЧКА - постепенная рубка - высечка галоўнага карыстання, пры якой дрэвастой высякаюць за некалькі прыёмаў на працягу аднаго або двух класаў узросту.

ПАТОК ЭНЕРГІІ Ў БІЯСФЕРЫ - поток энергии в биосфере - прыход энергіі Сонца і касмічных прамянёў на паверхню Зямлі, засваенне яе ў ходзе фотасінтэзу раслінамі, перадача ад аднаго трафічнага ўзроўню да другога, пераразмеркаванне паміж тэрабіясферай, гідрабіясферай і літабіясферай і, нарэшце, рассейванне энергіі ў сусветнай прасторы.

ПАТЭНЦЫЯЛ БІЯТЫЧНЫ - потенциал биотический: I) спадчынна абумоўленая ступень супраціўлення віду неспрыяльным фактарам асяроддзя, якая уключае П.б. -2 і патэнцыял выжывання; 2) патэнцыяльная здольнасць жывых арганізмаў павялічваць колькасць у геаметрычнай прагрэсіі (патэнцыял размнажальнасці); 3) ступень здольнасці жывога покрыва трансфарміраваць сонечную энергію ў ходзе біялагічнага (біятычнага) кругавароту.

ПАЙКІЛАТЭРМ(ІЯ) - пойкилотерм(ия) - арганізм (і яго уласцівасць), не здольны падтрымліваць тэрмічны рэжым абменных працэсаў, які пастаянна адрозніваецца ад тэмпературы асяроддзя, а таму мяняе тэмпературу цела ў залежнасці ад тэмпературы навакольнага асяроддзя.

ПАЙКІЛАТЭРМНЫЯ ЖЫВЁЛЫ - пойкилотермные животные (ад грэч. poikilos - розны, пераменлівы і therme - цяпло, жар) - халаднакроўныя жывёлы з непастаяннай тэмпературай цела, якая змяняецца пад уплывам тэмпературы навакольнага асяроддзя і звычайна роўная ёй або на I-2$^{o}$C вышэй за яе.

ПАЎКУСТЫ - полукустарники - шматгадовыя расліны, у якіх ніжнія часткі парасткаў, што нясуць пупышкі ўзнаўлення, адраўняюцца і захоўваюцца некалькі гадоў, а верхнія часткі застаюцца травяністымі і адміраюць штогод (у адрозненне ад кустоў і кусцікаў).



ПАЎНАТА ДРЭВАСТОЮ - полнота древостоя - ступень шчыльнасці стаяння дрэў у дрэвастоі, якая характарызуе долю выкарыстоўвання імі занятай прасторы.

ПАЎНАТА ПАКРЫЦЦЯ - полнота покрытия - ступень выкарыстання прасторы кронамі раслін пры вымярэнні гэтага паказчыка метадам вызначэння праектыўнага пакрыцця. Прыблізна тое ж, што і шчыльнасць пакрыцця.

ПАЎНАТА ФІТАЦЭНОЗУ - полнота фитоценоза - мера выкарыстання умоў асяроддзя дамінантным відам раслін; для лесу - запас драўніны дамінантнага віду на адзінку плошчы; для кустоў, паўкустоў і травяністых раслін паўната вызначаецца па суме праектыўных пакрыццяў віду на адзінку плошчы або множаннем ліку асобін на сярэднюю прадукцыйнасць адной асобіны, падзеленым на адзінку плошчы.

ПЕРАВАЖНЫЯ ПАРОДЫ - преобладающие породы - дрэвавыя пароды, якія да часу таксацыйнага ўліку насаджэння ствараюць большую частку яго запасу або займаюць большую частку яго плошчы.

ПЕРАЛІК ДРЭЎ -пересчет деревьев - вымярэнне дыяметраў дрэў на зададзенай вышыні (часцей I,3 м) для вызначэння сярэдняга дыяметра, вышыні, сумы плошчаў сячэнняў і запасу насаджэння.

ПІРАМІДА ЭКАЛАГІЧНАЯ - пирамида экологическая - суадносіны паміж прадуцэнтамі, кансументамі і рэдуцэнтамі ў экасістэме, выражаныя ў іх масе і адлюстраваныя ў выглядзе графічнай мадэлі.

ПЛОД - плод - орган размнажэння кветкавых раслін, які развіваецца з завязі і змяшчае ўнутры сябе насенне.

ПОДСЦІЛ - подстилка - злежаны на паверхні глебы слой адмерлых і апаўшых частак раслін - лісця, пладоў, кветак, кары і невялікіх галін.

ПОКРЫВА РАСЛІННАЕ - покров растительный - сукупнасць расліннных згуртаванняў пэўнага участка або ўсёй паверхні Зямлі.

ПОЛАГ ЛЕСУ - полог леса - сукупнасць кронаў самкнутых дрэў, размешчаных у адным або некалькіх ярусах.

ПРАДАМІНАНТЫ - предоминанты - віды, якія жывуць за кошт дамінантаў.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ БІЯЛАГІЧНАЯ - продуктивность биологическая - біямаса; выробленая папуляцыяй або згуртаваннем на адзінцы плошчы за адзінку часу, поўная або валавая першасная прадукцыйнасць павінна уключаць таксама энергію і біягенныя лятучыя рэчывы.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ НАСАДЖЭННЯ - продуктивность насаждения - запас ствалавой драўніны, сучча, галін, лісця і каранёў асноунага дрэвастою звычайна ва ўзросце спеласці, а таксама падросту, падлеску і жывога наглебавага покрыва на адзінку плошчы.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ - продуктивность первичная - хуткасць, з якой аўтатрофныя арганізмы (фота- і хемасінтэтыкі - прадуцэнты) у працэсе фотасінтэзу звязваюць сонечную энергію і назапашваюць яе ў выглядзе арганічных рэчываў.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ ВАЛАВАЯ - продуктивность первичная валовая - сумарная прадукцыя фотасінтэзу, у тым ліку і выкарыстаная энергія, і рэчывы для дыхання і жыццядзейнасці саміх арганізмаў - прадуцэнтаў. Яе яшчэ называюць першаснай брутапрадукцыяй і звычайна абазначаюць GPP - ад англ. gross primary production.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ПЕРШАСНАЯ ЧЫСТАЯ - продуктивность первичная чистая - хуткасць назапашвання арганічнага рэчыва ў раслінах за вылікам часткі, выкарыстоўваемай пры дыханні і выдзяленні біягенаў-2. П.п.ч. называюць таксама назіраемым фотасінтэзам або чыстай асіміляцыяй і сапраўдным прыростам фітамасы -NEP- ад англ. next ecosystem production.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ДРУГАСНАЯ - продуктивность вторичная - біямаса, а таксама энергія і біягенныя лятучыя рэчывы, выробленыя усімі кансументамі на адзінку плошчы за адзінку часу.

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ДРУГАСНАЯ ВАЛАВАЯ - продуктивность вторичная валовая - частка створаных прадуцэнтамі рэчываў, якія засвоены кансументамі таго ці іншага трафічнага ўзроўню экасістэмы (біяцэнозу).

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ЧЫСТАЯ ДРУГАСНАЯ - продуктивность чистая вторичная - частка рэчываў другаснай прадукцыі, без уліку выкарыстаных на дыханне, што засвоены кансументамі экасістэмы на стварэнне іх біямасы.



ПРАДУЦЭНТЫ - продуценты (ад лац. producentis - стваральны) - здольныя да фота - і хемасінтэзу арганізмы, якія утвараюць арганічныя рэчывы з неарганічных. П. - аўтатрофныя арганізмы, большасць іх - хларафіланосныя расліны (у наземных экасістэмах - зялёныя кветкавыя расліны, у водным асяроддзі - мікраскапічныя планктонныя водарасці).

ПРАРЭДЖВАННЕ - прореживание - высечка догляду ў сярэдне-ўзроставым дрэвастоі, якая праводзіцца з мэтай стварэння спрыяльных умоў для правільнага фарміравання ствала і кроны лепшых дрэў.

ПРАТАКААПЕРАЦЫЯ - протокооперация (ад грэч. protos - першапачатковы і лац. cooperatio - супрацоўніцтва) - форма ўзаемаадносін, калі сумеснае жыццё ўзаемна карыснае для абодвух відаў, але не з'яўляецца абавязковым.

ПРАХОДНАЯ ВЫСЕЧКА - проходная рубка - высечка догляду, якая праводзіцца ў лепшым дрэвастоі з мэтай стварэння спрыяльных умоў для павелічэння прыросту драўніны лепшых дрэў. На карані пакідаюць лепшыя дрэвы, а высякаюць горшыя.

ПРАЧЫСТКА - прочистка - высечка догляду ў маладым дрэвастоі, якая праводзіцца для паляпшэння умоў росту і рэгулявання размнажэння дрэў галоўнай пароды па плошчы.

ПРОБНАЯ ПЛОШЧА - пробная площадь - частка лесапакрытай плошчы, на якой праводзіцца дэталёвы абмер дрэў і падрабязнае апісанне лесарaслінных умоў. П.п. выкарыстоўваецца ў якасці эталону, які характарызуе пэўную катэгорыю зямель або насаджэнняў.

ПРУГКАСЦЬ (ПАРЦЫЯЛЬНЫ ЦІСК) ВАДЗЯНОЙ ПАРЫ ($e$) - упругость (парциальное давление) водяного пара ($e$) - ціск вадзяной пары, якая утрымліваецца ў паветры. Адзінка вымярэння - паскаль (Па), гектапаскаль (гПа) ці мілібар (мб).

ПРЫРОДА - природа: 1) у шырокім сэнсе слова - увесь матэрыяльна-энергетычны і інфармацыйны Сусвет; 2) сукупнасць натуральных умоў існавання чалавечага грамадства, на якую прама або ускосна уздзейнічае чалавецтва, з якой яно звязана ў гаспадарчай дзейнасці.

ПРЫРОДНЫ РАД НАСАДЖЭННЯЎ - естественный ряд насаждений - сукупнасць аднародных па біялагічных і экалагічных прыкметах насаджэнняў, якія характарызуюцца аднолькавым ходам росту і

развіцця, але рознымі ўзростамі.

ПРЫРОСТ БІЯМАСЫ – прирост биомассы – колькаснае павелічэнне жывога рэчыва папуляцыі або згуртавання, аднесенае да адзінкі часу. Выражаецца ў адзінках вагі (масы) на адзінку плошчы.

ПРЫРОСТ ДРАЎНІНЫ – прирост древесины – велічыня, на якую змяняецца запас дрэвастою з павелічэннем яго ўзросту.

ПРЫРОСТ ДРЭЎ – прирост деревьев – штогадовае адкладанне драўніны паверх слаёў мінулых гадоў, у выніку чаго павялічваецца агульная плошча камбіяльнага слоя і памеры (вышыня, таўшчыня, аб'ём і інш.) растучых дрэў, у т.л. аб'ём каранёў.

ПУНКТ РАСЫ ($\tau$) – точка росы ($\tau$) – тэмпература паветра, пры якой пры дадзеным утрыманні вадзяной пары ў паветры і нязменным ціску яна дасягае насычэння (адносная вільготнасць 100%).

ПЫЛЬНАЯ БУРА – пыльная буря – перанос вялікай колькасці пылу або пяску моцным ветрам.

ПЫЛЬНЫ ВІХОР – пыльный вихрь – маса паветра, ахопленая кругавым рухам каля сваёй асі, якая падымае з зямной паверхні пыл, пясок і розныя дробныя прадметы.

РАД ЭКАЛАГІЧНЫ – ряд экологический (сінэкалагічны) – прасторавая змена экалагічных сістэм, якія адрозніваюцца відавым складам і колькасцю асобін відаў, што ўваходзяць у згуртаванні, у сувязі з больш або менш рэзкай зменай умоў асяроддзя (біятопаў), звычайна у межах якога-небудзь выбранага профілю (на схіле гары, ад даліны ракі да водападзелу і да т.п.).

РАДЫЯЦЫЯ АДБІТАЯ – радиация отраженная – частка сонечнай радыяцыі, адбітая зямной паверхняй, воблакамі і інш.

РАДЫЯЦЫЯ БАЧНАЯ – радиация видимая – бачная частка спектра сонечнай радыяцыі, успрымальная чалавечым вокам. Сканцэнтравана ў спектры ад 0,40 да 0,76 мкм (мікраметраў).

РАДЫЯЦЫЯ ПРАМАЯ – радиация прямая – прамая сонечная радыяцыя – караткахвалевая радыяцыя Сонца, якая даходзіць да месца назірання непасрэдна ад дыска Сонца ў выглядзе пучка паралельных прамянёў.

РАДЫЯЦЫЯ СОНЕЧНАЯ – радиация солнечная – праменная энергія, якая ідзе ад Сонца. Электрамагнітная радыяцыя Сонца, якая распаўсюджваецца ў касмічнай прасторы і дасягае Зямлі ў выглядзе электрамагнітных хваляў са скорасцю амаль 300 тыс. км/с.



РАДЫЯЦЫЯ РАССЕЯНАЯ – радиация рассеянная – рассеяная сонечная радыяцыя – караткахвалевая радыяцыя Сонца, якая адхілілася ад прамалінейнага напрамку з прычыны рассеяння малекуламі газаў і аэразолямі ў атмасферы.

РАДЫЯЦЫЯ СУМАРНАЯ – радиация суммарная – агульны прыход караткахвалевай радыяцыі Сонца на пэўную паверхню, роўны суме прамой і рассеянай радыяцыі.

РАДЫЯЦЫЯ ФОТАСІНТЭТЫЧНА АКТЫЎНАЯ (ФАР) – радиация фотосинтетически активная (ФАР) – караткахвалевая радыяцыя з даўжынёй хваляў 0,38 – 0,71 мкм. Часткова выкарыстоўваецца раслінамі пры фотасінтэзе. Здольная прыводзіць ва ўзбуджаны стан малекулу хларафілу і ажыццяўляць акт стварэння арганічнага рэчыва (фотасінтэз).

РАСА – роса – дробныя кроплі вады, якія ўтвараюцца пры дадатнай тэмпературы на паверхні зямлі, раслін, наземных прадметаў вечарам, ноччу і раніцай.

РАСЛІННАЕ ЗГУРТАВАННЕ – растительное сообщество – тое ж, што і фітацэноз. Радзей тэрмін"Р.з." ужываюць для абазначэння раслінных груповак любых таксанамічных рангаў. У лесазнаўстве і лесаводстве ў сэнсе Р.з. шырока выкарыстоўваюцца тэрміны "насаджэнне" і "лесанасаджэнне".

РАСЛІННАСЦЬ – растительность – сукупнасць раслінных згуртаванняў (фітацэнозаў) планеты або яе асобных частак. Сінонім: расліннае покрыва.

РУЖА ВЯТРОЎ – роза ветров – дыяграма паўтаральнасці вятроў розных напрамкаў і іх скорасці ў пэўнай мясцовасці.

РЭАКЛІМАТЫЗАЦЫЯ – реакклиматизация: 1) штучнае вяртанне ў якую-небудзь мясцовасць раней прапаўшага там віду жывога; 2) працэс прыстасавання (адаптацыі -1) арганізма да ўмоў, якія сталі для яго нязвыклымі, але раней былі натуральнымі.

РЭДКАЛЕССЕ – редколесье: 1) паўночнае Р. – асабліва ахоўваемая паласа лясоў, якія не ўтвараюць самкнутага полагу; 2) рэдкастойныя лясы ля мяжы дрэвавай расліннасці ў гарах; 3) фаза цыклічнай (векавой) сукцэсіі, якая характарызуецца самазрэджваннем лесу ў выніку прыроднага забалочвання або, наадварот, узнікнення мезаклімату, падобнага да стэпавага, які

перашкаджае росту лясного падросту; 4) узнікаючыя, як правіла, у выніку антрапічнага ўплыву рэдкастойныя лясы любога тыпу.

РЭДУЦЭНТЫ - редуценты (ад лац. *reducentis*- які вяртаецца, узнаўляецца) - арганізмы, галоўным чынам бактэрыі і грыбы, якія на працягу ўсёй жыццядзейнасці ператвараюць арганічныя рэшткі ў неарганічныя рэчывы.

РЭДЗІНА - редина - дрэвастой з паўнатой менш за 0,3. У лесаводча-эканамічных адносінах Р. непажадальныя: яны нізкаякасныя і непрадукцыйныя,кроны дрэў, якія засталіся, разрастаюцца ў бакі, ствалы ствараюць шмат сукоў і спыняюць рост у вышыню, у выніку чаго зніжаецца выхад дзелавых сартыментаў.

РЭКРЭАЦЫЙНЫЯ ЛЯСЫ - рекреационные леса (ад італьян. *recreatio* - адпачынак, вяртанне сілы, выздараўленне) - лясы, прызначаныя для адпачынку насельніцтва. Да Р.л. адносяць гарадскія лясы, лесапаркі, лясы лесапаркавых частак зялёных зонаў і інш.

РЭКУЛЬТЫВАЦЫЯ - рекультивация - штучнае аднаўленне ўрадлівасці глебы і расліннага покрыва пасля тэхнагеннага парушэння прыроды (адкрытымі горнымі распрацоўкамі і да т.п.).

РЭЛІКТ - реликт - від або згуртаванне, раней у геалагічнай гісторыі шырока распаўсюджаныя, а зараз займаюць невялікія тэрыторыі. Напр., чарніцы - лясны Р. у Арктыцы.

РЭСУРСЫ - ресурсы - любыя крыніцы і магчымасці атрымання неабходных людзям матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, якія можна рэалізаваць пры існуючых тэхналогіях і сацыяльна-эканамічных адносінах. Р. дзеляць на тры асноўныя групы: матэрыяльныя, працоўныя, у тым ліку інтэлектуальныя, і прыродныя (натуральныя).

РЭСУРСЫ ЛЯСНЫЯ - ресурсы лесные - прыватны выпадак рэсурсаў прадуцэнтаў: I) лясное багацце, якое складаецца з драўніны і прадуктаў пабочнага карыстання лесам, г.зн. аб'ектамі ляснога промыслу, лясной гаспадаркі і лясной прамысловасці; 2) тое ж лясное багацце ў спалучэнні з грамадска-карыснымі і абаронча-рэсурсаахоўнымі функцыямі лесу, у тым ліку рэкрэацыйнымі; 3) лясы, прыгодныя для той або іншай формы эксплуатацыі.

РЭЧЫВА АНТРАПАГЕННАЕ - вещество антропогенное - хімічнае злучэнне, уключанае ў зямныя сферы дзякуючы жыццядзейнасці чалавека.



РЭЧЫВА АРГАНІЧНАЕ - вещество органическое: I) звычайна параўнальна складанае злучэнне вугляроду з іншымі элементамі; 2) складаная сумесь прыродных арганічных злучэнняў, асноўная першакрыніца якіх - расліны. Адрозніваюць гумусавыя, сапрапелевыя і ліптабіяллітавыя Р.а.

РЭЧЫВА БІЯГЕННАЕ - вещество биогенное: I) хімічнае злучэнне, узнікшае ў выніку жыццядзейнасці арганізмаў (але не абавязкова ўваходзячае ў склад іх целаў); 2) хімічны элемент або злучэнне, неабходнае для падтрымкі жыцця; 3) рэчыва, якое ствараюць і перапрацоўваюць арганізмы.

РЭЧЫВА БІЯКОСНАЕ - вещество биокосное - рэчыва,"якое ствараецца адначасова жывымі арганізмамі і коснымі працэсамі" і з'яўляецца "заканамернай структурай з жывога і коснага рэчыва".

РЭЧЫВА ЖЫВОЕ - вещество живое - сукупнасць целаў жывых арганізмаў, насяляючых Зямлю без залежнасці ад іх сістэматычнай прыналежнасці. Агульная вага жывога рэчыва ацэньваецца велічынёй 2,4 - 3,6 $\times 10^{12}$ т (у сухой вазе).

РЭЧЫВА КОСНАЕ - вещество косное - "утворанае працэсамі, у якіх жывое рэчыва не ўдзельнічае". Напрыклад, вывергнутыя горныя пароды.

САДЖАНЕЦ - саженец - маладая, але не маладзей як 3 - 4 гады дрэвавая або кустовая расліна, якая выгадавана з сеянца або чаранка і служыць пасадачным матэрыялам.

САМКНУТАСЦЬ (РАСЛІННАГА ПОКРЫВА) - сомкнутость (растительного покрова) - паказчык судатыкання кронаў (або каранёвых сістэм) раслін; вызначаецца метадам геаметрычнай праекцыі на вертыкальную плоскасць і метадам праектыўнага пакрыцця (г.зн. праекцыі на гарызантальную плоскасць). Адрозніваюць вертыкальную і гарызантальную С.

САПРАФАГІ - сапрофаги (ад грэч. *sopros* - гнілы) - жывёлы, якія харчуюцца гнілымі арганічнымі рэчывамі. Адрозніваюць дэтрытафагаў (харчуюцца абломкавым матэрыялам з рэшткамі ракавін і раслін, шкілетаў жывёл), капрафагаў (жывяцца экскрэментамі), некрафагаў (харчуюцца рэшткамі мёртвых арганізмаў).

САПРАФІТЫ - сапрофиты (ад грэч. *soprosiphyton* - расліна)- расліны, грыбы і бактэрыі, якія жывяцца арганічнымі рэчывамі

рэшткаў адмерлых арганізмаў або выдзяленнямі жывых.

САСНЯКІ - сосняки - светлахваёвыя лясы, у складзе дрэвастояў якіх дамінуе сасна.

СВЯТЛОЛЮБІВЫЯ РАСЛІНЫ - светолюбивые растения - геліяфіты - расліны, якія растуць на адкрытых месцах і не выносяць доўгачасовага зацянення.

СЕДЛАВІНА - седловина - барычная сістэма, заключаная паміж двума цыклонамі і двума антыцыклонамі, размешчанымі ў шахматным парадку.

СЕЛЕКЦЫЯ - селекция : I) навуковы раздзел, які даследуе прынцыпы і метады вывядзення новых сартоў раслін, пародаў жывёл, штамаў мікраарганізмаў; 2) практыка вывядзення новых штамаў мікраарганізмаў, сартоў раслін і пародаў жывёл; 3) працэс штучнага адбору.

СІМБІЕЗ - симбиоз (ад грэч.symbiosis - сумеснае жыццё) - форма вельмі цесных узаемавыгадных міжвідавых узаемаадносін, для якіх характэрна кантактнае сумеснае жыццё арганізмаў- сімбіёнтаў, калі адзін з партнёраў ускладае на другога (ці абодва партнёры ўзаемна) задачу рэгуляцыі сваіх адносін са знешнім асяроддзем.

СІНАПТЫЧНЫЯ КАРТЫ - синоптические карты - карты надвор'я - геаграфічныя карты, на якіх лічбамі і ўмоўнымі знакамі (сімваламі) нанесены даныя назіранняў за надвор'ем.

СІНУЗІЯ - синузия (ад грэч.synusia - згуртаванне, супольніцтва) - структурная адзінка згуртавання, якая аб'ядноўвае расліны адной жыццёвай формы ці, у крайнім выпадку, экалагічна блізкіх жыццёвых формаў.

СІНЭКАЛОГІЯ - синэкология (ад грэч. syn - супольна, сумесна), экалогія згуртаванняў - раздзел экалогіі, які вывучае сукупнасці арганізмаў (біяцэнозы).

СІСТЭМА - система (ад грэч.systema - цэлае, злучэнне) - мноства элементаў, якія знаходзяцца ў адносінах і сувязях паміж сабой, ствараючы пэўную цэласнасць, адзінства.

СКЛАДАНЫ ДРЭВАСТОЙ - сложный древостой - шмат'ярусны дрэвастой - дрэвастой, у якім дрэвы размешчаны ў двух і больш ярусах.

СКОРАСЦЬ ВЕТРУ - скорость ветра - гарызантальная складаючая руху паветра ў адзінку часу. Выражаецца у м/с, км/гадз., вузлах (марская міля ў гадз.) або ўмоўных адзінках - балах.



СМЕРЧ - смерч - моцны віхор у атмасферы, які ўтвараецца пад навальнічнай хмарай і рухаецца ў выглядзе цёмнага слупа. Сінонімы смерчу: тромб (над сушай), тарнада (у ЗША).

СМЯРОТНАСЦЬ - смертность - лік асобін, у тым ліку людзей, памерлых або загінуўшых за адзінку часу (часта за год) у адносінах да ўмоўнага іх ліку (часцей на 100 або 1 тыс.), якія жывуць на якой-небудзь абмежаванай тэрыторыі, або да ўсяго аб'ёму разглядаемай папуляцыі. Адрозніваюць узроставую і прыродную смяротнасць.

СНЕГ - снег - цвёрдыя атмасферныя ападкі ў выглядзе снежных крышталяў - сняжынак.

СНЕГАВАЛ - снеговал - дрэвы, паваленыя з каранямі пад цяжарам снегу.

СНЕЖНЫЯ ЗЕРНІ - снежные зёрна - непразрыстыя матава-белыя палачкі ці крупінкі дыяметрам менш за 1 мм.

СОНЕЧНАЯ ПАСТАЯННАЯ - солнечная постоянная ($J_0$) - колькасць сонечнай радыяцыі, якая ідзе на верхнюю мяжу атмасферы, на паверхню, перпендыкулярную сонечным прамяням. Складае ў сярэднім 1382 Вт/м$^2$.

СПЕЛЫ ДРЭВАСТОЙ - спелый древостой - узроставы перыяд дрэвастою пасля сярэднеўзроставага перыяду. У С.д. спыняецца дыферэнцыяцыя дрэў, запавольваецца іх рост у вышыню, прырост па дыяметры, назіраюцца багатыя ўраджаі насення, назапашваецца драўніна найбольш каштоўных сартыментаў.

СТАБІЛЬНАЯ ПАПУЛЯЦЫЯ - стабильная популяция - папуляцыя, дзе смяротнасць кампенсуецца прыростам асобін і колькасць утрымліваецца на адным узроўні.

СТАЦЫЯ - стация (ад лац.statio - месцазнаходжанне) - участак тэрыторыі, які заняты папуляцыяй віду і характарызуецца пэўнымі экалагічнымі ўмовамі.

СТАЦЫЯЛЬНАЯ ВЕРНАСЦЬ - стациальная верность - уласцівасць відаў выбарачна засяляць тыя ці іншыя стацыі.

СТВОЛ - ствол - галоўнае (восевае) адраўнелае сцябло дрэва. Пачынаецца ад шыйкі кораня і заканчваецца вяршыняй.

СТРАТАСФЕРА - стратосфера (ад лац.stratum - слой і sphaira - шар, сфера) - слой атмасферы паміж трапасферай і мезасферай (да 50 - 55 км). Характарызуецца павышэннем температуры з вышынёй (ад -40°C да 0°C).

СТРУКТУРА БІЯГЕАЦЭНОЗУ - структура биогеоценоза - дзяленне біягеацэнозу на гарызантальныя і вертыкальныя падраздзяленні - кансорцыі, парцэлы, сінузіі, ярусы, а таксама на ўсе разнавіднасці фітацэнозу.

СТРУКТУРА ПАПУЛЯЦЫІ - структура популяции - узроставапалавы, генетычны, фенатыповы і інш. склад папуляцыі. Рэзкае парушэнне С.п. можа прывесці да паступовай яе дэградацыі, напр., пералоў полаваспелых асобін можа запаволіць або нават спыніць размнажэнне папуляцыі віду.

СТРУКТУРА ФІТАЦЭНОЗУ - структура фитоценоза - дзяленне расліннага згуртавання на гарызантальныя і вертыкальныя падраздзяленні - гарызонты, мератопы (I), полагі, слаі (фітацэнозу), ярусы (I і 2) і інш.

СТРУКТУРА ЭКАСІСТЭМЫ - структура экосистемы - натуральнае функцыянальна-марфалагічнае чляненне экасистэмы на падсістэмы і блокі, якія адыгрываюць у экасістэме роль "цаглінак". У лік структурных элементаў уваходзяць папуляцыі, кансорцыі, сінузіі, ярусы расліннасці і г.д., г.зн. структуры біягеацэнозу (фітацэнозу) і структуры біягеацэнозу (экасістэмы).

СТЭНАБІЕНТНЫЯ АРГАНІЗМЫ - стенобионтные организмы (ад грэч. stenos - вузкі, абмежаваны) - расліны і жывёлы, якія могуць існаваць толькі ў адносна пастаянных умовах навакольнага асяроддзя, пры нязначных ваганнях тэмпературы (стэнатэрмныя арганізмы), вільготнасці (стэнагідрычныя), салёнасці (стэнагалінныя), умоў асяроддзя (стэнатопныя), корму (стэнафагныя) і г.д.

СУБДАМІНАНТ(Ы) - субдоминант(ы): I) другі па колькасці від пасля самага шматлікага ў згуртаванні; 2) віды раслін, дамінуючыя ў другарадных слаях расліннага згуртавання; 3) узровень іерархічнага становішча асобіны ў групе.

СУБЛІМАЦЫЯ - сублимация - ператварэнне вадзяной пары ў цвёрды стан.

СУВЯЗЬ ХАРЧОВАЯ (ТРАФІЧНАЯ) - связь пищевая (трофическая) - харчовыя ўзаемаадносіны паміж рознымі арганізмамі, як правіла, разглядаемыя ў трафічным ланцугу або сетцы, а таксама паміж асобінамі, блізкімі ў сістэматычных адносінах або толькі харчовых патрэбах.

СУКЦЭСІЯ - сукцессия (ад лац. successio - пераемнасць) - паслядоўная змена на пэўным участку зямной паверхні адных біягеацэнозаў (біяцэнозаў, фітацэнозаў) другімі.



СУКЦЭСІЯ ДРУГАСНАЯ - сукцессия вторичная - сукцэсія, якая адбываецца ў экасістэме, з якой выдалены найважнейшыя часткі былога біяцэнозу.

СУКЦЭСІЯ ДЭСТРУКТЫЎНАЯ - сукцессия деструктивная - сукцэсія, якая не завяршаецца канчатковым клімаксам.

СУКЦЭСІЯ ПЕРШАСНАЯ - сукцессия первичная - сукцэсія, якая пачынаецца з фарміравання біяцэнозу на пазбаўленых жыцця месцах.

СУКЦЭСІЯ ПРАГРЭСІЎНАЯ - сукцессия прогрессивная - змяненні экасістэмы ў напрамку клімаксу.

СУКЦЭСІЯ РЭГРЭСІЎНАЯ - сукцессия регрессивная - сукцэсія ў напрамку, адваротным клімаксу, што можа прывесці да карэнных змяненняў экасістэмы ці яе пагібелі.

СУКЦЭСІЯ ЭКАСІСТЭМЫ - сукцессия экосистемы - паслядоўна накіраваная змена экасістэмы (у больш вузкім сэнсе - змена складу біяцэнозу) у выніку дзеяння вонкавых і ўнутраных прычын.

СУСТРАКАЛЬНАСЦЬ - встречаемость - паказчык раўнамернасці размеркавання асобін па плошчы на ўсім арэале або на асобных, зрэдку невялікіх яго ўчастках. Выражаецца частатой знаходжання асобін на пробных пляцоўках у працэнтах да ўсяго ліку вывучаных пляцовак.

СУХААДЫЯБАТЫЧНЫ ВЕРТЫКАЛЬНЫ ГРАДЫЕНТ ТЭМПЕРАТУРЫ - сухоадиабатический вертикальный градиент температуры - змяненне тэмпературы сухога паветра або паветра з ненасычанай вадзяной парай пры адыябатычным вертыкальным перамяшчэнні на 100 м.

СУХААДЫЯБАТЫЧНЫ ПРАЦЭС - сухоадиабатический процесс - адыябатычны працэс, які працякае ў сухім або вільготным паветры, але не насычаным вадзяной парай.

СУХАВЕЙ - суховей - вецер з высокай тэмпературай, нізкай адноснай вільготнасцю і вялікім дэфіцытам вільготнасці паветра.

СУЦЭЛЬНЫЯ ВЫСЕЧКІ - сплошнолесосечные рубки - высечкі галоўнага карыстання, пры якіх увесь дрэвастой на лесасецы высякаюць за адзін прыём. Пакідаюць толькі насенныя дрэвы, курціны, палосы і падрост.

СЦЯНА ЛЕСУ - стена леса - частка насаджэння, прыбліжаная да высечкі. У адрозненне ад узлеску С.л. вельмі адчувальная да ветру; могуць быць частыя ветравалы. С.л. аказвае істотны уплыў на аднаўленне лесу на высечках.

ТАЛЕРАНТНАСЦЬ - толерантность (ад лац. tolerantia - цярплівасць) - здольнасць арганізма пераносіць неспрыяльны уплыў таго ці іншага фактару асяроддзя.

ТАКСАНАМІЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ - таксономические категории (ад грэч. taxis - размяшчэнне, строй і nomos - закон) - паняцці, якія прымяняюцца у біялагічнай сістэматыцы (таксанаміі) для абазначэння рангаў супадпарадкаваных груп арганізмаў - таксонаў. Кожнаму канкрэтнаму таксону прысвойваецца пэўная Т.к., напр., таксоны дуб чарэшчаты, бяроза павіслая адносяць да Т.к. віду; таксоны дуб, бяроза - да Т.к. роду.

ТАКСАЦЫЯ - таксация - ацэнка колькасці чаго-небудзь, вызначэнне яго цаны, каштоўнасці.

ТАКСАЦЫЯ ЛЕСУ - таксация леса - матэрыяльная ацэнка лесу - вызначэнне запасу і прыросту драўніны, аб'ёму магчымых нарыхтовак лесаматэрыялаў, якасці самога лесу.

ТАЙФУН - тайфун - мясцовая назва трапічных цыклонаў штармавой і ураганнай сілы у Паўднёва-Усходняй Азіі і на Далёкім Усходзе.

ТРАВАСТОЙ - травастой - надземная частка траў у раслінным згуртаванні - аналаг тэрміна дрэвастой.

ТРАВЯНА-КУСЦІКАВАЕ ПОКРЫВА - травяно-кустарничковый покров - жывое наглебавае покрыва - сукупнасць імхоў, лішайнікаў, травяністых раслін і паўкустоў, якія пакрываюць глебу пад полагам лесу, на высечках і гарах; адзін з ярусаў насаджэння.

ТРАНСПІРАЦЫЯ - транспирация - выпарэнне вады надземнымі органамі раслін, перш за усё лісцем.

ТРАПАСФЕРА - тропосфера (ад грэч. tropos - паварот, змена і sphaira - сфера, шар) - ніжняя, пераважная па масе частка зямной атмасферы, у якой тэмпература паветра паніжаецца з вышынёй. Вышыня у палярных шыротах да 8-10 км, умераных-да 10 - 12 км і трапічных-да 16-18 км.

ТРАПІЧНЫ ЦЫКЛОН - тропический циклон - атмасферная бура з паніжаным атмасферным ціскам і штармавымі скарасцямі ветру, якая узнікае у трапічных шыротах.



ТУМАН - туман - наяўнасць вялікай колькасці дробных вадзяных кропелек або ледзяных крышталяў у прыземных слаях атмасферы (часам да вышыні некалькіх соцень метраў). Падзяляюцца на туманы ахаладжэння і туманы выпарэння, радыяцыйныя, адвектыўныя і інш.

ТЫП ЛЕСАГАДОЎЧЫХ УМОЎ - тип лесорастительных условий - тып умоў месцаўзрастання, тып месцаў узрастання, тып месцапражывання, тып зямель - сукупнасць аднародных лесагадоўчых умоў на пакрытых і не пакрытых лесам участках.

ТЫП ЛЕСУ - тип леса - участак лесу або сукупнасць участкаў лесу, якія характарызуюцца агульным тыпам лесагадоўчых умоў, падобным складам дрэвавых парод і раслін ніжніх ярусаў, блізкай фаўнай і патрабуюць адных і тых жа лесагаспадарчых мерапрыемстваў пры роўных эканамічных умовах. Адрозніваюць карэнныя і вытворныя Т.л.

ТЫП РАСЛІННАСЦІ - тип растительности - асноўная таксанамічная адзінка у класіфікацыі расліннага згуртавання. Пры вылучэнні Т.р. улічваюць самыя агульныя экалагічныя і біялагічныя асаблівасці раслін, якія складаюць расліннае згуртаванне. Характарызуюць найбольш буйныя падраздзяленні расліннасці, напр. тундру, тайгу, лясы умеранага пояса і інш.

ТЭМПЕРАТУРНАЯ ІНВЕРСІЯ - температурная инверсия (ад лац. inversio - пераварочванне, перастаноўка) - павышэнне тэмпературы паветра з вышынёй замест звычайнага для трапасферы яе убывання.

ТЭМПЕРАТУРНЫ ПРЭФЕРЭНДУМ - температурный преферендум (ад лац. inversio - перавага) - тэмпература, якой арганізм аддае перавагу у акрэслены перыяд жыцця.

ТЭРМАСФЕРА - термосфера - слой атмасферы над мезасферай ад вышыні 90 км да 450 км, тэмпература у якім узрастае да вышыні 200- 300 км і дасягае тут 1200°С, пасля чаго застаецца пастаяннай.

УБЫВАЮЧАЯ ПАПУЛЯЦЫЯ - сокращающаяся популяция - папуляцыя, дзе смяротнасць перавышае нараджальнасць і колькасць памяншаецца.

УЗАЕМААДНОСІНЫ МІЖВІДАВЫЯ - взаимоотношения межвидовые -

прамы і апасродкаваны уплыў арганізмаў, якія адносяцца да розных відаў, адзін да аднаго, як інфармацыйны, так і з перадачай рэчыва і энергіі.

УЗАЕМААДНОСІНЫ ЎНУТРЫВІДАВЫЯ – взаимоотношения внутривидовые – прамы і апасродкаваны уплыў асобін аднаго віду адна на адну, які характарызуецца перадачай інфармацыі або аднначасова з ёй-рэчыва і энергіі.

УЗЛЕСАК – опушка – паласа лесу шырынёй да 100 м, размешчаная па мяжы з бязлеснай прасторай.

УЗНАЎЛЕННЕ ЛЕСУ – восстановление леса – комплекс мерапрыемстваў, які забяспечвае з'яўленне лясной раслліннасці у месцах, дзе лес цалкам або часткова зведзены чалавекам або загінуў у выніку прыроднай катастрофы. Нярэдка здзяйсняецца шляхам засявання насеннем або пасадкай саджанцаў.

УЗНАЎЛЕННЕ ЛЯСНЫХ РЭСУРСАЎ – воспроизводство лесных ресурсов – працэс бесперапыннага аднаўлення вытворчасці прадуктаў і паслуг лесу для задавальнення патрэб народнай гаспадаркі. Да ліку прадуктаў і паслуг лесу адносяцца драўніна, тэхнічныя (жывіца, таніны і інш.) і харчовыя (арэхі, грыбы, ягады і інш.) прадукты лесу, а таксама ахоўная і рэкрэацыйная карысць лесу.

УЗРАСТАЮЧАЯ ПАПУЛЯЦЫЯ – растущая популяция – папуляцыя, дзе нараджальнасць перавышае смяротнасць і колькасць узрастае.

УЗРОВЕНЬ ТРАФІЧНЫ – уровень трофический – становішча арганізмаў у сукупнасці, заснаванае на іх удзеле ў харчовых ланцугах. У.т. вылучаецца па прынцыпу аддалення арганізма у харчовых ланцугах ад зялёных раслін, якія складаюць першы У.т., або узровень прадуцэнтаў. Расліннаедныя жывёлы, драпежнікі першага парадку, якія паядаюць расліннаедных, драпежнікі другога парадку ствараюць адпаведна другі, трэці і чацвёрты У.т.

УЗРОЎНІ АРГАНІЗАЦЫІ ЖЫЦЦЯ – уровни организации жизни – ген, клетка, орган, арганізм, папуляцыя, згуртаванне.

УЗРОСТ ВЫСЕЧКІ – возраст рубки – узрост дрэвастою, пачынаючы з якога ён з прыспелага пераходзіць у спелы і можа быць вызначаны ў высечку галоўнага карыстання. У.в. устанаўліваюць шляхам вызначэння ўзросту спеласці.



УЗРОСТ НАСАДЖЭННЯ – возраст насаждения – адзін з асноўных таксацыйных паказчыкаў, які характарызуе насаджэнне. Па ўзросту насаджэнні дзеляць на класы і адпаведныя ім групы ўзросту (маладняк, жардняк, сярэднеўзроставае, прыспелае, спелае і перастойнае насаджэнні).

УСТОЙЛІВАСЦЬ РАСЛІНЫ – устойчивость растения – здольнасць раслін супрацьстаяць уздзеянню неспрыяльных экалагічных фактараў.

ФАКТАР АСЯРОДДЗЯ – фактор среды – любы фактар-І, разглядаемы з пункту гледжання якога-небудзь суб'екта, аб'екта або з'явы, прынятага за цэнтральны у назіраемай сукупнасці.

ФАКТАР АБІЯТЫЧНЫ – фактор абиотический (ад грэч. а – не, без і *biotikos* – жыццёвы, жывы) – сукупнасць умоў неарганічнага асяроддзя, якія уплываюць на арганізмы і іх згуртаванні.

ФАКТАР БІЯТЫЧНЫ – фактор биотический: 1) фактар -І, крыніцай якога з'яўляецца апасродкаванае уздзеянне жывога на асяроддзе, напр. праз хімічныя вылучэнні (фітанцыды і інш.), адміранне арганізмаў (утварэнне вуглёў, карбанатаў мораў і да т.п.), дзейнасць іх мінулых пакаленняў (фарміраванне глебаў) і г.д.; 2) сінонім фактара біягеннага.

ФАКТАР ЭКАЛАГІЧНЫ – фактор экологический – кожны фактар асяроддзя, які можа аказваць непасрэдны уплыў на жывыя арганізмы, а таксама на характар узаемаадносін іх паміж сабой.

ФАРМАЦЫЯ – формация: 1)сукупнасць асацыяцый, падобных па раслінных дамінантах -І галоўнага слоя біятычнага згуртавання і у ідэале з аднолькавым відавым складам эдыфікатараў; 2) спалучэнне геалагічных целаў або комплексаў парод, аб'яднаных у парагенетычных, стратыграфічных,тэктанічных або якіх-небудзь іншых адносінах. Ф. – мнагазначны тэрмін.

ФАРМАЦЫЯ РАСЛІННАЯ – формация растительная (ад лац. *formatio* – утварэнне) – сукупнасць асацыяцый, асноўны ярус якіх складаецца з аднаго віду раслін або з устойлівага спалучэння некалькіх відаў.

ФАЦЫЯ ФІЗІКА-ГЕАГРАФІЧНАЯ – фация физико-географическая – элементарны, далей недзялімы з пункту гледжання прыроднай комплекснасці участак паверхні зямлі, які мае на усёй сваёй працягласці аднародныя літалогію, рэльеф, кліматычныя харак-

тарыстыкі, глебы і біятычныя кампаненты, што складаюць на тэрыторы Ф.ф.-г. адзін біяцэноз (напр., схіл яра якой-небудзь адной экспазіцыі, рэчышча ручая і да т.п.).

ФЁН – фён – цёплы, сухі і парывісты вецер, які дзьме з нізкіх горных хрыбтоў у даліны. Утвараецца пры перамяшчэнні паветра праз хрыбты, размешчаныя перпендыкулярна паветранаму патоку.

ФІТАКЛІМАТ – фитоклимат – клімат, зменены раслінным згуртаваннем у выніку сукупнага ўздзеяння на абіятычнае асяроддзе фізічных і хімічных (фітанцыды і да т.п.) агентаў, звязаных з раслінамі, і створаных імі механічных (структурных) асаблівасцей паверхні зямлі.

ФІТАМАСА – фитомасса (ад грэч. *phytón* – расліна і маса) – біямаса раслін, якая прыпадае на адзінку плошчы і выражаецца звычайна ў адзінках масы абсалютна сухога рэчыва. Тэрмін "Ф". часам выкарыстоўваюць як сінонім тэрміна "маса", прымяняючы яго для асобных раслін, іх органаў і частак. Ф. – адзін з асноўных паказчыкаў першаснай біялагічнай прадукцыйнасці.

ФІТАНЦЫДЫ – фитонциды (ад грэч. *phyton* – расліна і лац. *caedo* – забіваю) – утвораныя раслінамі біялагічна актыўныя рэчывы, якія забіваюць або зніжаюць рост і развіццё мікраарганізмаў;адыгрываюць важную ролю ў імунітэце раслін ва ўзаемаадносінах арганізмаў у біяцэнозах.

ФІТАЦЭНАТЫП – фитоценотип – група відаў (папуляцый) раслін, аб'яднаных падобнымі прыстасаванымі рэакцыямі і агульнай роляй у біяцэнозе.

ФІТАЦЭНОЗ – фитоценоз – больш або менш устойлівае згуртаванне, складзенае раслiннымі арганізмамі аднаго ці некалькіх пакаленняў і утварыўшае ўласнае ўнутранае асяроддзе (фітаклімат, абмен рэчываў і да т.п.). Фітацэноз нельга адрозніваць ад біяцэнозу і біягеацэнозу.

ФЛОРА – флора: І) эвалюцыйна гістарычна складзеная сукупнасць відаў раслін, якія растуць або раслі ў геалагічным мінулым на пэўнай тэрыторыі (акваторыі) або ў складзе асобнага расліннага згуртавання; 2) спіс відаў раслін, якія растуць на пэўнай тэрыторыі.

ФЛУКТУАЦЫІ ПАПУЛЯЦЫЙ – флуктуации популяций (ад лац. *fluctuatio* – ваганне) – выпадковыя нерэгулярныя ваганні колькасці папуляцыі, адхіленне ад некаторай аптымальнай шчыльнасці папуляцыі. Выклікаюцца знешнімі ў адносінах да папуляцыі фактарамі.



ФОРМА ЖЫЦЦЁВАЯ – форма жизненная – тып прыстасавання розных відаў да падобных умоў асяроддзя. Знешне Ф.ж. характарызуецца агульнымі рысамі адаптацыі да асяроддзя, падабенствам асноўных марфалагічных рысаў і павадкавых прыкметаў (напр., Ф.ж. скакуноў прадстаўлена тушканчыкамі і кенгуру, Ф.ж. сукулентаў – кактусамі, малачаямі і г.д.).

ФОТАПЕРЫЯДЫЗМ – фотопериодизм (ад грэч. *phatos* – святло і *periodos* – абход, кругаварот) – зваротная рэакцыя арганізмаў на чаргаванне і працягласць светлых і цёмных перыядаў сутак.

ФОТАСІНТЭЗ – фотосинтез – акісляльна-аднаўленчая рэакцыя сінтэзу арганічных рэчываў з дапамогай светлавой энергіі,г.зн. ператвараць энергію сонечных прамянёў у хімічную энергію арганічных злучэнняў.

ХАРЧАВАННЕ РАСЛІН – питание растений – паглынанне раслінай пажыўных рэчываў з навакольнага асяроддзя, ператварэнне і засваенне іх для папаўнення энергетычных затрат і пабудовы тканак.

ХАРЧОВАЯ СЕТКА – пищевая сеть – сукупнасць харчовых ланцугоў усіх арганізмаў дадзенай экасістэмы (біягеацэнозу).

ХВАЁВЫЯ ЛЯСЫ – хвойные леса – лясы з перавагай у дрэвастоі адной або некалькіх хваёвых парод.

ХВАЁВЫЯ ПАРОДЫ – хвойные породы – дрэвы, радзей кусты, большай часткай вечназялёныя, з іголкападобным, лінейным або лускаватым лісцем (шпулькамі).

ХЕМАТРОФ – хемотроф – арганізм,які сінтэзуе арганічнае рэчыва з неарганічных за кошт энергіі акіслення аміяку,серавадароду і інш. рэчываў,што ёсць у вадзе, глебе і падглебе.

ЦВЁРДАЛІСТЫЯ ПАРОДЫ – твердолиственные породы – лісцевыя дрэвавыя пароды, якія даюць цвёрдую драўніну (дуб, ясень, клён і інш.).

ЦВЕРДЫ НАЛЕТ – твердый налет – паўпразрысты слой лёду таўшчынёй да 2-3 мм, які ўтвараецца на ахалоджаных да адмоўных тэмператур вертыкальных паверхнях.

ЦЕНЕВЫНОСЛІВЫЯ РАСЛІНЫ – теневыносливые растения – рас-

ліны, якія выносяць некаторае зацяненне, але добра растуць і пры поўным асвятленні.

ЦЁМНАХВАЁВЫЯ ЛЯСЫ - темнохвойные леса - лясы, утвораныя ценевынослівымі хваёвымі дрэвавымі пародамі - елкай, піхтай, кедравай сасной.

ЦЫКЛ БІЯГЕАХІМІЧНЫ - цикл биогеохимический - кругаварот хімічных рэчываў: з неарганічнай прыроды праз раслінныя і жывёльныя арганізмы назад у неарганічную. Адбываецца з выкарыстаннем сонечнай энергіі і энергіі хімічных рэакцый.

ЦЫКЛ ЖЫЦЦЁВЫ - цикл жизненный - у ніжэйшых арганізмаў, якія размнажаюцца дзяленнем,- перыяд ад дзялення да дзялення; у вышэйшых шматклетачных арганізмаў - перыяд ад нараджэння або з'яўлення аплодненага яйца (праз рост, ператварэнне, пасяванне, размнажэнне, старэнне ) да смерці.

ЦЫКЛОН - циклон (ад грэч. cuklon - які круціцца) - вобласць паніжанага атмасфернага ціску, якая ўяўляе сабою атмасферны віхор дыяметрам ад некалькіх соцень да некалькіх тысяч км.

ЦЭНАБІЕЗ - ценобиоз - сумеснае жыццё арганізмаў у згуртаваннях.

ЦЭНАБІЕНТ - ценобионт - арганізм як член згуртавання (у папуляцыі як аднавідавым згуртаванні або біяцэнозе як шматвідавым згуртаванні).

ЦЭНАТЫП - ценотип - член класіфікацыі відавых сукупнасцей па іх функцыянальным становішчы ў згуртаваннях. Фітацэнатычны экатып, прыстасаваны да асяроддзя расліннага згуртавання (фітацэнозу).

ЦЭНОЗ - ценоз - любое згуртаванне (біяцэноз, заацэноз, фітацэноз і да т.п.).

ЧАРНАЛЕССЕ - чернолесье - народная назва дуброў, букавых, асінавых і бярозавых лясоў. Зімой на фоне снегавога покрыва бязлістыя дрэвы і кусты здаюцца чорнымі. У лесаводчай літаратуры тэрмін шырокага распаўсюджання не атрымаў.

ЧЫРВОНАЯ КНІГА - красная книга - спіс рэдкіх відаў жывёл і раслін, што знаходзяцца пад пагрозай знікнення, які змяшчае кароткія дакументальныя даныя пра іх біялогію, распаўсюджанне і інш.



ШКАЛА МНОСТВА - шкала обилия - колькасць і праектыўнае пакрыццё асобін раслін па вакамернай ацэнцы ў балах па прынятых шкалах, з якіх найбольш распаўсюджаная-шкала Гульта-Друдэ (часта называюць шкалой Друдэ).

ШКАЛА ЭКАЛАГІЧНАЯ - шкала экологическая - любая шкала ацэнкі экалагічнага значэння таго або іншага асяроддзеставальнага кампанента або з'явы ў экасістэме для асобнага арганізма (віду) або іх сукупнасці (згуртавання). Шкалы мноства, размяшчэння, увільгатнення - прыклады экалагічных шкалаў.

ШКВАЛ - шквал - раптоўнае, рэзкае, кароткачасовае ўзмацненне ветру, якое суправаджаецца зменамі яго напрамку.

ШКОДНІКІ ЛЕСУ - вредители леса - арганізмы, якія пашкоджваюць лясныя насаджэнні.

ШТОРМ - шторм - вецер у 9 балаў па шкале Бафорта (2I - 24 м/с).

ШЧЫЛЬНАСЦЬ НАСЯЛЕННЯ ПАПУЛЯЦЫІ - плотность населения популяции - колькасць асобін або іх маса на адзінку плошчы ці аб'ёму.

ШЧЫЛЬНАСЦЬ СНЕГУ - плотность снега - маса снегу ў адзінцы аб'ёму (г / см$^3$).

ШЫРАКАЛІСТЫЯ ЛЯСЫ - широколиственные леса - лясы, утвораныя галоўным чынам букам, дубам, радзей грабам, ліпай і іншымі, г.зн. дрэвамі з шырокімі ліставымі пласцінкамі.

ШЭРАНЬ - изморозь - адкладанне лёду на галінах дрэў, правадах, наземных прадметах у выніку намярзання кропель пераахалоджанага туману або непасрэднага пераходу пары ў крышталікі лёду.

ЭВАЛЮЦЫЯ - эволюция - неабарачальнае і ў вядомай меры накіраванае гістарычнае развіццё жывой прыроды, якое суправаджаецца змяненнем генетычнага складу папуляцый, фарміраваннем адаптацый, стварэннем і выміраннем відаў, пераўтварэннем біягеацэнозаў, буйных экасістэм і біясферы ў цэлым.

ЭДАСФЕРА - эдасфера - прастора, што акружае арганізм, на якую ён аказвае ўплыў у працэсе жыццядзейнасці, змяняючы фізічныя і хімічныя паказчыкі асяроддзя (ствараючы ўласны мікраклімат і аказваючы электрычнае, тэрмічнае, радыёактыўнае, фітанцыднае, салявое і інш. уздзеянні).

ЭДАТОП – эдатоп – сукупнасць умоў асяроддзя, створаных для глебавых арганізмаў глебай.

ЭДАФІЧНАЯ СЕТКА – эдафическая сеть (ад грэч. *edaphos* – аснова, зямля, глеба) – сетка эдафатопаў – двухмерная каардынатная сістэма, якая выкарыстоўваецца ў лясной тыпалогіі для выдзялення тыпаў умоў месцапражывання, тыпаў месцазнаходжання па двух экалагічных фактарах: вільготнасці – па вертыкальнай асі і ўмовах мінеральнага харчавання – па гарызантальнай асі.

ЭДАФІЧНЫЯ ФАКТАРЫ – эдофические факторы (ад грэч. *edaphos* – аснова, зямля, глеба) – вільготнасць глебы, умовы мінеральнага жыўлення, склад глебы, кіслотнасць і іншыя ўласцівасці глебы.

ЭДАФОН – эдафон – карані раслін, глебавая фауна, глебавыя мікраарганізмы і іншае насельніцтва глебы.

ЭДАФАТОП – эдафотоп – участак тэрыторыі з аднолькавымі глебава-грунтовымі ўмовамі.

ЭДЫФІКАТАРЫ – эдификаторы (ад лац. *aedificator* – будаўнік) – група раслінных відаў у фітацэнозе, якая вызначае структуру і склад, аказвае рашаючы ўплыў на жыццё біяцэнозу.

ЭЙДЭКАЛОГІЯ – эйдэкология (ад грэч. *eidos* – вобраз, від) – экалогія віду.

ЭКАЛАГІЧНАЯ НІША – экологическая ниша – функцыянальная пазіцыя віду ў біяцэнозе, залежная ад іншых відаў і ад становішча ў прасторы і часе. Гэта сукупнасць экалагічных характарыстык віду (дакладней, папуляцый), месцазнаходжанне, ежа, месца размнажэння, супраціўленне фактарам асяроддзя, узаемаадносіны з іншымі відамі – карацей, усе ўмовы яго існавання.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПІРАМІДА – экологическая пирамида – графічнае адлюстраванне трафічнай структуры экасістэмы. Уяўляе сабой шэраг прамавугольнікаў аднолькавай вышыні, якія размешчаны адзін на другім, а даўжыня іх прапарцыянальная колькасці асобін (піраміда лікаў), біямасе (піраміда біямасаў) або энергіі (піраміда энергіі) арганізмаў кожнага трафічнага ўзроўню экасістэмы.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПЛАСТЫЧНАСЦЬ, ЭКАЛАГІЧНАЯ ВАЛЕНТНАСЦЬ – экологическая пластичность, экологическая валентность – уласцівасць арганізмаў прыстасоўвацца да таго ці іншага дыяпазону фактараў асяроддзя.



ЭКАЛАГІЧНАЯ РАЎНАВАГА – экологическое равновесие – экалагічны баланс і стан прыроднага згуртавання, калі ўсе яго кампаненты знаходзяцца ў раўнавазе і фарміруюць стабільную экасістэму, у якой адносны ўдзел арганізмаў розных функцыянальных узроўняў застаецца больш або менш пастаянным.

ЭКАЛАГІЧНЫ ОПТЫМУМ – экологический оптимум – сукупнасць умоў прыроднага асяроддзя, пры якой усе фактары найбольш спрыяльныя для відавой папуляцыі, згуртавання, біяцэнозу.

ЭКАЛАГІЧНЫ ПЕСІМУМ – экологический пессимум (ад лац. *pessimus* – найгоршы) – умовы, пры якіх жыццядзейнасць арганізма максімальна прыгнятаецца, але ён яшчэ можа існаваць.

ЭКАЛОГІЯ – экология (ад грэч. *oikos* – дом, жыллё, месцазнаходжанне і *logos* – вывучэнне, пазнанне) – навука пра адносіны раслінных і жывёльных арганізмаў і утвораных імі сукупнасцей (папуляцый, біяцэнозаў і г.д.) паміж сабой і навакольным асяроддзем.

ЭКАМОРФА – экоморфа – жыццёвая форма арганізма, адбітая ў яго будове, знешнім выглядзе.

ЭКАСІСТЭМА – экосистема (ад грэч. *oikos* – дом, жыллё, месцазнаходжанне і сістэма) – адзіны прыродны комплекс, створаны жывымі арганізмамі і асяроддзем іх існавання, у якім жывыя і косныя кампаненты звязаны паміж сабою абменам рэчываў і энергіяй.

ЭКАТОП – экотоп – неарганічнае (коснае) асяроддзе біягеацэнозу, сукупнасць яго абіятычных кампанентаў, якія падраздзяляюцца на глебавае (эдафатоп) і наземнае (аэратоп, кліматоп) асяроддзі. Існуе тэрмін-сінонім "Біятоп", які ўжываюць замежныя эколагі.

ЭКАТЫП – экотип – група асобін якога-небудзь віду раслін, якія характарызуюцца спадчыннай прыстасавальнасцю да пэўных экалагічных умоў месцазнаходжання.

ЭКЗАСФЕРА – экзосфера – знешні слой атмасферы (вышэй за 450 км).

ЭКЗОТЫ – экзоты (ад грэч. *exotikos* – іншаземны) – расліны і жывёлы, якія не адносяцца да мясцовай флоры і фауны, а за-

везення (інтрадуцыраваныя) з месцаў з іншымі кліматычнымі ўмовамі.

ЭЛІМІНАЦЫЯ - элиминация - знішчэнне асобін у працэсе барацьбы за існаванне.

ЭМІГРАЦЫЯ (У ПРЫРОДЗЕ) - эмиграция (в природе): 1) любое перамяшчэнне з месца, якое лічылася звычайным, у іншае, выпадковае, незвычайнае або новае; 2) масавае высяленне жывёл са звычайных месцаў жыхарства.

ЭНЕРГЕТЫЧНАЯ АСВЕТЛЕНАСЦЬ - энергетическая освещенность - паток радыяцыі (J)- колькасць праменнай энергіі, падаючай на адзінку плошчы. Характарызуецца імгненнымі значэннямі ў Вт/м$^2$, Дж/м$^2$хс і сумамі за гадзіну, суткі, месяц, год (мДж/м$^2$).

ЭНДЭМ(ІК) - эндем(ик) - мясцовы від, які жыве толькі ў дадзеным рэгіёне (без абмежавання плошчы - Э. кантынента і Э. вострава, вяршыні гары і да т.п.) і не жыве ў іншых.

ЭНТАМАФАУНА - энтомофауна - сукупнасць відаў насякомых, фауна насякомых.

ЭПІДЭМІЯ - эпидемия - хуткае і бесперапыннае распаўсюджванне інфекцыйнага захворвання ў межах якой-небудзь сукупнасці арганізмаў або пэўнага рэгіёна.

ЭПІЗААТЫЯ - эпизоотия - адначасовае распаўсюджванне захворвання сярод вялікай колькасці жывёл ці многіх відаў.

ЭПІФАУНА - эпифауна - жывёльныя арганізмы, якія прымацаваны да паверхні грунта або свабодна рухаюцца па ім.

ЭСТУАРЫЙ - эстуарий: 1) аднарукаўнае лейкападобнае вусце ракі, якое пашыраецца ў бок мора; 2) шырокае вусце ракі, якая ўпадае ў возера, мора ці акіян у месцах, дзе прылеглая частка мора (возера, акіяна) мае вялікія глыбіні, а рачныя наносы пастаянна выдаляюцца марскімі плынямі.

ЭЎРЫБІЁНТ - эврибионт - арганізм, які жыве ў розных умовах асяроддзя, часам вельмі кантрастных.

ЭЎРЫБІЁНТНЫЯ АРГАНІЗМЫ - эврибионтные организмы (ад грэч. εὐρύς - шырокі) - расліны і жывёлы, якія могуць існаваць пры значных зменах умоў навакольнага асяроддзя. Адпаведна выдзяляюць віды эўрытэрмныя, эўрыгалінныя, эўрытопныя, эўрыфагныя і г.д.

ЭФЕКТЫЎНАЕ ВЫПРАМЯНЕННЕ ЗЯМНОЙ ПАВЕРХНІ (Ее) - эффективное излучение земной поверхности (Ее)- розніца паміж уласна



зямным выпрамяненнем (Ез) і паглынутым ёй сустрэчным выпрамяненнем атмасферы (Еа).

ЯДРО - ядро - частка драўніны ствала і буйнога сучча так званых ядравых парод - лістоўніцы, сасны, дуба, ясеня і іншых, размешчаная вакол сарцавіны.

ЯРУС - ярус-элемент вертыкальнай структуры (яруснасці) насаджэння (у лесаводстве) і фітацэнозу (у фітацэналогіі). Ярусамі могуць размяшчацца ў біяцэнозе таксама насякомыя, птушкі, млекакормячыя і іншыя жывёлы.

ЯРУСНАСЦЬ - ярусность - вертыкальны падзел раслінных згуртаванняў (фітацэнозаў) на рознавышынныя структурныя часткі - ярусы.

ТЕРМИНОЛОГИЧЕСКИЙ ТОЛКОВЫЙ БЕЛОРУССКО-РУССКИЙ
СЛОВАРЬ ПО ЭКОЛОГИИ И ЛЕСОВЕДЕНИЮ
Составители: Миксюк Регина Вячеславовна,
Рожков Леонид Николаевич
Минск, БТИ им. С.М.Кирова
На белорусском языке

ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ТЛУМАЧАЛЬНЫ БЕЛАРУСКА-РУСКІ
СЛОЎНІК ПА ЭКАЛОГІІ І ЛЕСАЗНАЎСТВУ
Складальнікі : Міксюк Рэгіна Вячаславаўна,
Ражкоў Леанід Мікалаевіч
Рэдактар М.П.Мурашка. Карэктар А.В.Лях.
Падпісана да друку 1.09.92. Фармат 60x84 1/16.
Друк афсетны. Ум.друк.арк. 4,6. Ум.фарба-адбіт. 4,6. Ул.-выд.арк. 3,9.
Тыраж 400 экз. Заказ 313.
Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга тэхналагічны
інстытут імя С.М.Кірава. 220630. Мінск, Свярдлова,13 а.
Аддрукавана на ратапрынце Беларускага ордэна Працоўнага
Чырвонага Сцяга тэхналагічнага інстытута імя С.М.Кірава.
220630. Мінск, Свярдлова,13.

